

"Каб усе былі адно" (Ян 17, 21)

# Царква

№ 3 (34), 2002 КРЫЖАЎЗВЫШЭНЬНЕ

## Канфесіі ў Беларусі

***Паводле зьвестак Камітэту па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў, у 2002 годзе ў Беларусі налічвалася 2830 рэлігійных суполак, якія належалі да 26 канфесіяў.***

Сярод 18 канфесіяў, якія належаць да розных накірункаў хрысьціянства,— 1224 (43,3%) суполкі Расейскай Праваслаўнай Царквы, 558 (19,7%) — Саюзу хрысьціянаў веры евангельскай (пяцідзясятнікі), 433 (15,3%) — Рыма-Каталіцкай Царквы, 270 (9,5%) — Саюзу евангельскіх хрысьціянаў-баптыстаў, 61 — Царквы поўнага Евангельля, 51 — Адвентыстаў сёмага дня, 35 — Стараверскай Царквы, 29 — Рады Цэркваў евангельскіх хрысьціянаў-баптыстаў, 20 — Новапостальскай Царквы, 17 — Лютаранскай Царквы, 14 — Грэка-Каталіцкай Царквы, 9 суполак Хрысьціянаў веры апостальскай, 6 суполак Царквы Хрыстовай, 2 — Рэфармацкай Царквы, 2 — месіянскія суполкі, 2 суполкі католікаў лацінскага абраду, па 1 суполцы маюць Ёганская Царква і Царква першых хрысьціянаў.

Сярод вызнаўцаў нехрысьціянскіх канфесіяў у Беларусі найбольш суполак у Сьведак Яговы і мусульманаў — па 27, зарэгістравана таксама 25 юдэйскіх суполак (трох накірункаў), 7 суполак крышнаітаў, 6 суполак вызнаўцаў веры Бахаі, 3 суполкі маюць мармоны.

Паводле зьвестак Камітэту па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў, рэлігійныя суполкі краіны маюць у сваім распараджэньні 1864 культавыя будынкі (гэта значыць, што толькі 65,9% рэлігійных суполак маюць сваё сталае месца для малітвы). Пасьля часоў ваяўнічага атэізму дзяржава вярнула вернікам 1120 будынкаў, у тым ліку: 790 — праваслаўным, 292 — рыма-католікам, 19 — стараабраднікам, 8 — юдэям, 7 — пратэстантам, 3 — мусульманам, 1 — грэка-католікам (у Магілёве). Сёньня ў Беларусі ўсе канфесіі ўзводзяць 205 храмаў, сярод якіх 135 будынкаў — праваслаўныя цэрквы, 38 — рыма-каталіцкія касьцёлы і 32 — пратэстанцкія малітоўныя дамы.



• *Крыж на Палесьсі (З альбому М.Раманюка «Беларускія народныя крыжы»).*

## 60-ГОДДЗЕ ТРАГЕДЫІ Ў БАБРОВІЧАХ

***15 верасьня спаўняецца 60 гадоў Бабровіцкай трагедыі. Восеньню 1942 году фашысты падчас карнай вайсковай аперацыі «Балотная ліхаманка» спалілі жыхароў вёсак Бабровічы, Вяда і Тупічыцы з колішняй уніяцкай парафіі, якой апекаваўся да 1941 году выдатны беларускі дзеяч айцец Баляслаў Пачопка. У агні было спалена 1052 чалавекі. Пасьля вайны часткова адрадзіліся толькі Бабровічы...***

Беларускія грэка-католікі не забываюць у малітвах пра сваіх продкаў-уніятаў. 14 верасьня 2002 году, каб ушанаваць памяць пра бязьвінныя ахвяры, у Бабровічы прыехала група вернікаў з Івацэвічаў, Берасьця, Пінску і Менску. На бабровіцкіх могілках душпастыр для грэка-католікаў Берасьцейшчыны а. Ігар Кандрацьеў адслужыў паніхіду. У гэты самы дзень вернікі ўшанавалі памяць душпастыра бабровіцкіх уніятаў а. Баляслава Пачопкі, які пахаваны ў Целяханах. Ня так даўно на старых каталіцкіх могілках была адшукана ягоная магіла. Цяпер яна прыбрана. На ёй устаноўлены і асьвечаны часовы крыж з надпісам, тамсама была адслужана малая паніхіда.

Сёньня зусім няшмат засталося тых, хто памятае тыя страшныя восеньскія дні 1942 году, а пра спаленыя вёскі цяпер нагадваюць адно старыя магутныя дубы ды нязграбныя аблупленыя савецкія абеліскі з зоркай. Але застанецца знакамітая кніга-помнік «Я з вогненнай вёскі» А.Адамовіча, Я.Брыля і У.Калесьніка, якая пачынаецца менавіта з апісаньня трагічных падзеяў у глухой палескай вёсцы Бабровічы. З 2000 году на Бабровіцкіх могілках, дзе пахаваны ахвяры фашысцкага тэрору, а таксама на другім баку Бабровіцкага возера, дзе былі вёскі Вяда і Тупічыцы, узвышаюцца крыжы, устаноўленыя грэка-католікамі. Крыжы памяці і смутку...




# Прамова Сьвятога Айца Яна Паўла II на цырымоніі адкрыцьця XVII Сусьветнага дня моладзі

**Таронта, Exhibition Place, 25 ліпеня 2002 году**

*Дарагія маладыя!*

1 Запаведзі блаславенства, якія мы толькі што пачулі, зьяўляюцца *Magna charta*, Вялікай кнігай хрысьціянства. Мы зноў перажылі вачамі сэрца сцэну тых часоў. Натоўп людзей абступае Ісуса, які сядзіць на гары,— мужчыны і жанчыны, маладыя і старыя, здаровыя і хворыя, што прыйшлі з Галілеі, а таксама з Ерусаліму, Юдэі, з гарадоў Дзесяцігароддзя, Тыру і Сідону. Усе чакаюць нейкага слова ці жэсту, які б мог прынесьці ім суцяшэньне і надзею.

Таксама і мы сабраліся сёньня ўвечары тут, каб пачуць Госпада. Я гляджу на вас з велізарнай любоўю: вы прыехалі з розных рэгіёнаў Канады, Злучаных Штатаў, Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыкі, Еўропы, Афрыкі, Азіі, Акіяніі. Я слухаў вашыя радасныя галасы, вашыя воклічы і сьпевы і зразумеў, што ў вашых сэрцах б'ецца велізарнае жаданьне быць шчасьлівымі!

Дарагія маладыя! Мноства спакусьлівых прапановаў акружае вас з усіх бакоў: многія кажуць вам пра радасьць, якую можна атрымаць з дапамогаю грошаў, посьпеху, улады. Больш за ўсё вас хочуць спакусіць радасьцю, якую нясуць у сабе легкадумныя і пазбаўленыя сэнсу задавальненьні.

2 Дарагія сябры! На вашае юнае жаданьне быць шчасьлівымі стары Папа, абцяжараны гадамі, але яшчэ малады сэрцам, адказвае словамі, якія яму не належаць. Гэтыя словы прагучалі вось ужо дзьве тысячы гадоў таму. Мы іх зноў чулі сёньня ўвечары: «Шчасьлівыя...». Ключавым словам настаўленьня Ісуса зьяўляецца радасная вестка: «Шчасьлівыя...».

Чалавек створаны для радасьці. Гэта значыць, вашае прагненьне шчасьця мае права на існаваньне. І адказ на вашае чаканьне шчасьця мае Хрыстос. Але Ён просіць вас даверыцца Яму. Сапраўдная радасьць — гэта здабытак, якога немагчыма дасягнуць без працяглай і цяжкай барацьбы. Хрыстос валодае тайнай, з дапамогаю якой можна дасягнуць перамогі.

Вам вядомыя папярэднія падзеі, пра іх гаворыцца ў Кнізе Быцьця: Бог стварыў мужчыну і жанчыну ў раі, у Эдэме, таму што Ён хацеў, каб яны былі шчасьлівыя. Чалавечы грэх зьмяніў, на жаль, Ягоную першапачатковую задуму. Але Бог не зьмірыўся з гэтым паражэньнем. Ён паслаў Свайго Сына на зямлю, каб зноў адкрыць чалавеку далягляды яшчэ больш цудоўнага неба. Бог стаўся чалавекам,— Айцы Царквы падкрэсьліваюць гэта,— каб чалавек змог стаць Богам. Такім ёсьць эпахальны паварот, увасоблены праз Уцелаўленьне ў чалавечай гісторыі.

3 У чым ёсьць барацьба? Адказ нам дае сам Хрыстос. «Ён, быўшы ў Божай прыродзе,— пісаў сьв. Павел,— не палічыў за рабунак Сваю роўнасьць з Богам, а... узяўшы вобраз раба..., упакорыў Сябе і быў паслухмяны аж да сьмерці, і сьмерці крыжовай» (Плп 2, 6-8). Гэта была сьмяротная барацьба. Хрыстос атрымаў перамогу ў ёй не для сябе, але для нас. З гэтай сьмерці паўстала жыцьцё. Магіла Галгофы стала калыскаю новага чалавецтва, якое кіруецца да сапраўднага шчасьця.

«Нагорная пропаведзь» зьяўляецца дарожнай мапай гэтага шляху. Восем Блаславенстваў — гэта дарожныя знакі, якія ўказваюць накірунак руху. Гэта рух угору, але Ён прайшоў яго першым. І Ён гатовы зноў прайсьці яго разам з намі. Аднойчы Ён сказаў: «Хто пойдзе сьледам за Мною, той ня будзе блукаць у цемры» (Ян 8, 12). А ў іншых абставінах дадаў: «Гэта сказаў Я вам, каб радасьць Мая ў вас заставалася і радасьць вашая была поўная» (Ян 15, 11).

І толькі калі будзем існьці разам з Хрыстом, можна дасягнуць радасьці — сапраўднай радасьці! Менавіта таму Ён паўтарыў вам сёньня радасную вестку: «Шчасьлівыя...».

Прымаючы цяпер Ягоны пачэсны Крыж, той Крыж, які разам з маладымі прайшоў па вуліцах сьвету, няхай у цішы вашага сэрца зноў і зноў гучыць гэтае суцяшальнае і абавязваючае слова: «Шчасьлівыя...».

4 Цяпер, калі мы сабраліся вакол Крыжа Гасподняга, пагледзім на Яго: Ісус не абмежаваў сябе пералікам запаведзяў блаславенстваў, Ён усе іх выканаў. Зноў гартаючы старонкі Ягонага жыцьця і перачытваючы Евангельле, усё больш зьдзіўляешся: найбяднейшы з бедных, самая пяшчотная істота сярод ціхмяных, чалавек з найчысьцейшым і найміласэрным сэрцам,— гэта менавіта Ён, Ісус. Запаведзі блаславенстваў — гэта ня проста апісаньне нейкай асобы,— у іх выяўлена Ягонае Аблічча!

У той самы час гэтыя запаведзі Блаславенства апісваюць тое, якім павінен быць хрысьціянін: яны зьяўляюцца партрэтам пасьлядоўніка Хрыста, фатаграфіяй чалавека, які прыняў Валадарства Божае і жадае наладзіць уласнае жыцьцё згодна з Евангельлем. Да такога чалавека зьвяртаецца Ісус, называючы яго «шчасьлівым».

Радасьць, якую абяцаюць Блаславенствы, гэта радасьць самога Ісуса: радасьць, якую шукалі і знайшлі ў паслушэнстве Айцу і ў ахвяраваньні сябе братам.

5 Моладзь Канады, Амерыкі і ўсяго сьвету! Гледзячы на Ісуса, вы зможаце навучыцца, што значыць быць убогімі духам, ціхімі і міласэрнымі; што значыць шукаць праўду, быць чыстымі сэрцам, быць міратворцамі.

Поглядам, скіраваным на Яго, вы зможаце адкрыць шлях да прабачэньня і прымірэньня ў сьвеце, які вельмі часта знаходзіцца ва ўладзе гвалту і тэрору. З драматычнай відавочнасьцю мы адчулі на працягу мінулага году трагічны бок чалавечага вераломства. Мы ўбачылі, што адбываецца, калі пануе нянавісьць, грэх і сьмерць.

Але сёньня голас Хрыста зноў гучыць пасярод нашага сходу. Ягоны голас — гэта голас жыцьця, надзеі, прабачэньня; гэта голас справядлівасьці і міру. Давайце прыслухаемся да яго!

6 Дарагія сябры! Царква глядзіць на вас з даверам і чакае, што вы станеце народам, які выконвае запаведзі блаславенства.

Шчасьлівыя вы, калі будзеце, як Ісус, убогія духам, добрыя і міласэрныя, калі зможаце дабівацца таго, што справядліва і праведна; калі будзеце чыстыя сэрцам, міратворцамі, якія любяць бедных і служаць ім. Шчасьлівыя вы!

Толькі Ісус ёсьць праўдзівы Настаўнік, толькі Ісус нясе з сабою вестку, якая не зьмяняецца з вякамі і адказвае на самыя глыбокія спадзяваньні чалавечага сэрца, таму як толькі Ён ведае «што ў чалавеку» (Ян 2, 25). Сёньня Ён заклікае вас быць сольлю і сьвятлом сьвету, абраць дабрыню, жыць у справядлівасьці, стаць прыкладам любові і супакою. Ягоны заклік заўсёды патрабаваў выбару паміж дабром і злом, паміж сьвятлом і цемраю, паміж жыцьцём і сьмерцю. Гэты ж заклік ідзе сёньня да вас, што сабраліся тут, на берагах Антарыё.

7 Якому закліку пасьледуюць вартаўнікі, што чакаюць надыходу ранка? Верыць у Ісуса — гэта значыць прыняць тое, што Ён кажа, нават калі гэта супярэчыць таму, што кажуць іншыя. Гэта значыць адмовіцца ад спакусаў граху, якімі б прывабнымі яны не здаваліся, і існьці па шляху, які вымагаюць евангельскія прынцыпы.

Маладыя, якія чуеце мяне, адкажэце Госпаду моцным і высакародным сэрцам! Ён разьлічвае на вас. Не забывайце: Хрыстос патрабуе вас, каб выканаць свой план збаўленьня! Хрыстос патрабуе вашай маладосьці і вашага высакароднага запалу, каб Ягоная радасная вестка загучала ў новым тысячагоддзі. Адкажэце на Ягоны заклік, паклаўшы жыцьцё вашае на служэньне Яму ў братох вашых. Даверцеся Хрысту, таму як Ён давярае вам.

8 *Госпадзе, Ісусе Хрысьце, прамоў яшчэ раз*
*Твае запаведзі Блаславенства перад гэтымі маладымі,*
*што сабраліся ў Таронта на свой Сусьветны дзень.*
*Глянь на іх з любоўю і выслухай гэтыя маладыя сэрцы,*
*якія гатовыя рызыкнуць сваёй будучыняй дзеля Цябе.*
*Ты паклікаў іх быць "сольлю зямлі і сьвятлом сьвету".*
*Навучай і далей іх праўдзе і прыгажосьці*
*Валадарства Божага,*
*якое абвясьціў Ты ў Нагорнай пропаведзі.*
*Зрабі іх мужчынамі і жанчынамі, якія выконваюць*
*Твае запаведзі Блаславенства!*
*Запалі ў іх сьвятло Тваёй мудрасьці,*
*каб такім чынам словамі і справамі яны маглі*
*несьці ў сьвет сьвятло і соль Евангельля.*
*Зрабі ўсё жыцьцё іх бліскучым водблiскам Цябе,*
*які ёсьць праўдзівае Сьвятло, што прыйшло ў сьвет гэты,*
*бо хто верыць у Цябе, не памрэ,*
*але здабудзе жыцьцё вечнае (пар. Ян 3, 16)!*

# Грамадзкія слуханьні: Ці будзе ў Беларусі свабода веравызнаньняў?

**Актывісты грамадзянскай ініцыятывы «За свабоднае веравызнаньне» 24 чэрвеня 2002 году наладзілі Грамадзкія слуханьні па праекце зьменаў і дапаўненьняў у закон «Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях», келейнасьць распрацоўкі якога ўстрывожыла многіх вернікаў. Гэтыя грамадзкія слуханьні былі спробай адхіліць саму недэмакратычную канцэпцыю новага закону, якая ня ўлічвае інтарэсаў рэлігійных меншасьцяў Беларусі.**

На гэтыя слуханьні ў Нямецкім адукацыйным цэнтры сабраліся прадстаўнікі розных рэлігійных канфесіяў Беларусі, журналісты, дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Ад грэка-католікаў у грамадзкіх слуханьнях бралі ўдзел прадстаўнік сакратарыяту Апостальскага візітатара семінарыст Андрэй Крот і рэдактар газеты «Царква» Ігар Бараноўскі; сярод арганізатараў былі таксама Яўген і Ларыса Андросікі. Дзіўна, але чыноўнікі з Камітэту па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў гэтыя грамадзкія слуханьні праігнаравалі. Таму, каб даведацца, чаму ўзьнікла патрэба ў новым законе, прысутным давялося слухаць аўдыёзапіс выступу старшыні Камітэту сп. Станіслава Буко перад дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў.

Галоўны аргумент распрацоўшчыкаў новага закону — моцна зьмянілася рэлігійная сітуацыя ў краіне, павялічылася колькасьць суполак. З 1996 году ў Беларусі па-новаму будуюцца дзяржаўна-царкоўныя стасункі (у арт. 16 Канстытуцыі цяпер запісана, што «...узаемаадносіны дзяржавы і рэлігійных арганізацыяў рэгулююцца законам з улікам іх уплыву на фармаваньне духоўных, культурных і дзяржаўных традыцыяў беларускага народу»). Новы Грамадзянскі кодэкс аднёс рэлігійныя арганізацыі да некамерцыйных. Значна пашырылася сфера дзейнасьці рэлігійных арганізацыяў, якія, акрамя культавай практыкі, актыўна займаюцца дабрачыннай дзейнасьцю, рэлігійнай асьветай і адукацыяй, сацыяльным служэньнем, займаюцца выдавецкай і гаспадарчай дзейнасьцю, падтрымліваюць міжнародныя кантакты. Адначасова сп.С.Буко адзначыў спробы распаўсюджваньня ў Беларусі раней невядомых рэлігійных арганізацыяў і сектаў («Белае брацтва», «Багародзічны цэнтр», «Царква Муна» і інш.). Гэтыя арганізацыі не зарэгістраваныя, бо іх веравучэньне і культавая практыка не адпавядае дзейнаму заканадаўству. Тым ня менш пасьлядоўнікі дэструктыўных сектаў працягваюць дзейнічаць у нашай краіне. І вось, менавіта зважаючы на гэтыя рэаліі, на тое, што дзейны закон аб свабодзе веравызнаньняў ня ўтрымлівае прававога механізму для спыненьня дзейнасьці дэструктыўных сектаў, прапануецца прывесьці беларускае заканадаўства ў адпаведнасьці з новымі рэаліямі.

Вядома, стары закон патрабаваў дапрацоўкі — жыцьцё сапраўды ўносіць свае карэктывы — і новы закон можна было б толькі вітаць, каб ён улічваў прапановы і заўвагі розных канфесіяў. Але ж, як выявілася, карэктывы ў закон былі ўнесены зусім ня ў тым накірунку, у якім думалі вернікі. Не, закон зусім не спрашчае рэгістрацыю рэлігійных суполак і аб'яднаньняў, не дае большае поле для дабрачыннай і культурна-асьветнай дзейнасьці. Зусім наадварот! Згодна з новым законам шэраг суполак рэлігійных меншасьцяў Беларусі можа зьнікнуць, ці яны вымушаны будуць працаваць, як у бязбожныя савецкія часы, у падпольлі. А ці ж гэта ў інтарэсах вернікаў і дзяржавы? Перавагі ж паводле новага закону атрымае адно Расейская Праваслаўная Царква Маскоўскага Патрыярхату, якой распрацоўшчыкі надалі асаблівы статус.

Новы закон аб свабодзе веравызнаньняў нават не ўтрымлівае паняцьця «акультызм», «дэструктыўная секта», таму наўрад ці ён будзе мецць для іх нейкае значэньне. Затое значна абмяжуе дзейнасьць арганізацыяў рэлігійных меншасьцяў Беларусі — пратэстантаў, грэка-католікаў, старабраднікаў, праваслаўных вернікаў з незарэгістраванай у нашай краіне Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, юдэяў, мусульманаў, вернікаў Армянскай Апостальскай Царквы і інш. Між іншым, на практыцы ўжо сёньня пад паняцьце «сектанты» нярэдка трапляюць прадстаўнікі рэлігійных меншасьцяў, дзейнасьць якіх не нясе абсалютна ніякай пагрозы беларускаму грамадзтву. А што яшчэ будзе?!

Што да неакультаў і дэструктыўных сектаў, дык новы закон аніяк іх не закране, бо звычайна іхнія адэпты дзейнічаюць пад выглядам культурна-асьветніцкіх, экалагічных, а цяпер нават і камерцыйных арганізацыяў. Апошнія нярэдка зьбіраюць сродкі для сваёй дзейнасьці шляхам фінансавых махінацыяў. Шмат якія секты ніколі і не імкнуліся рэгістравацца, бо ім гэта проста непатрэбна. Іхнія лідары ладзяць усялякія псеўданавуковыя семінары, зьбіраюць моладзь у спартовых секцыях на занятк па звышарыгінальных усходніх методыках, на якіх упіхваецца ў галаву свая ідэалогія і псеўдарэлігія. Сектанцкую літаратуру можна знайсьці на паліцах кнігарняў, прычым, як правіла ня толькі сярод рэлігійнай літаратуры традыцыйных канфесіяў, а сярод літаратуры пра здароўе, сярод філасофскай і нават мастацкай літаратуры. Распаўсюджваюцца такія выданьні на вуліцах гарадоў ды праз інтэрнэт.

Увядзеньне цэнзуры на выданьне рэлігійнай літаратуры выглядае даволі наіўным крокам у час інтэрнэт-тэхналогіяў. Спыніць гэты наступ загадамі наўрад ці можна. Гэта пад сілу толькі самым вернікам традыцыйных канфесіяў Беларусі, калі яны будуць шчырыя ў веры, калі ўчынкамі і любоўю будуць сьведчыць сваю веру ў Бога.

Наогул, распрацоўшчыкам закону трэба было б памятаць, што розныя неакульты і дэструктыўныя секты зьяўляюцца найперш там, дзе ёсьць духоўная пустэча. Расейская Праваслаўная Царква, якая прэтэндуе на вызначальную ролю ў нашым грамадзтве, яўна ня ў стане сёньня самастойна запоўніць гэтую пустэчу — занадта інэртныя ў яе сёньня душпастыры ды і формы працы трэба было б шукаць новыя для сучаснага грамадзтва. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова глянуць на жахлівую статыстыку разводаў, абортаў, самазабойстваў, алкагалізму і наркаманіі насельніцтва, мноства пакінутых дзяцей ды нікому непатрэбных старых людзей.

Працяг на с.8-9 ⇨

---

*Якаў* **ГУТМАН**, *прэзідэнт Сусьветнай асацыяцыі беларускіх габрэяў:*

*«Закон вылучае сярод роўных «больш роўных», падобна таму, як у творы Оруэла зьявіліся «першыя сярод роўных». Закон супярэчыць сам сабе: гаворыць пра ўсеагульную роўнасьць і адначасова спасылаецца на заслугі перад Радзімай.*

*Габрэі, якія вякамі складалі большую частку гарадзкога насельніцтва Беларусі, да 1990 году мелі тут усяго адну грамаду! Ці значыць гэта, што ўсе нашыя рэлігійныя аб'яднаньні, што існуюць сёньня, з прыняцьцем закону ліквідуюць? Калі закон будзе прыняты, мы ня зможам запрашаць рабінаў, бо няма рабінаў-грамадзянаў Рэспублікі Беларусь! А без рабіна жыцьцё рэлігійнай грамады спыняецца. Усе ведаюць, што магілы нашых бацькоў — салдатахвяраў Галакосту — раскіданы па ўсёй краіне. Атрымліваецца, з прыняцьцем закону Мазырская рэлігійная суполка, напрыклад, ня зможа нават правесьці набажэнства ў вёсцы Мазырскага раёну?»*

---

**Сяргей ЦВОР**, *намесьнік япіскапа Саюзу хрысьціянаў веры евангельскай Беларусі:*

*«Мяне шакавала інфармацыя пра тое, што законапраект быў нібыта ўхвалены большасьцю рэлігійных канфесіяў. Яшчэ 23 лістапада мінулага году быў арганізаваны Круглы стол па праблемах новага закону. У ім прымалі ўдзел Рыма-Каталіцкая Царква, а таксама ўсе пратэстанцкія канфесіі, што ёсьць у Беларусі. Вынікам Круглага стала сталі прапанаваныя намі папраўкі. На 21 лютага гэтага году планавалася правядзеньне навукова-практычнай канферэнцыі «Дзяржава. Рэлігія. Закон», дзе нам было прапанавана падрыхтаваць даклады і выступіць па дадзенай тэматыцы. Пасьля таго як мы падалі свае дакументы ў камісію, канферэнцыя была адменена без усякіх тлумачэньняў.*

*Я зьяўляюся адным з кіраўнікоў рэлігійнай канфесіі і звычайна ў курсе справаў Саюза ЕХБ, але для мяне прыняцьцё закону ў 1-ым чытаньні было нібы гром сярод яснага неба. Ён жа нават не быў апублікаваны ў СМІ, яго як быццам хавалі ад грамадзкасьці! Нашыя заўвагі праігнараваныя цалкам. Я лічу, што гэты закон проста прапіхваюць. Цалкам парушаны арт. 37 Канстытуцыі, які дае нам права на абмеркаваньне законаў.*

*Я адназначна заяўляю: гэты закон парушае правы хрысьціянаў пратэстанцкіх канфесіяў! Гэты закон — ганьба для нашай краіны!»*

# Бесарабская Праваслаўная Царква праз суд дамаглася рэгістрацыі

***У Малдове пасьля 10 гадоў змаганьня за свае правы Бесарабская Праваслаўная Царква, якая знаходзіцца пад юрысдыкцыяй Румынскага Патрыярхату, здолела нарэшце атрымаць дзяржаўную рэгістрацыю. Урад адмаўляўся рэгістраваць Царкву, бо лічыў, што яе існаваньне ўнясе раскол у праваслаўную супольнасьць.***

Ня гледзячы на ўпартае супраціўленьне канкурэнта — Малдаўскай Праваслаўнай Царквы Маскоўскага Патрыярхату, якая зьяўляецца самай вялікай дэнамінацыяй у Малдове,— урад краіны пад ціскам Еўрапейскага суду па правах чалавека і Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы вымушаны быў зарэгістраваць Царкву. Кестанская служба навінаў паведамляе, што паводле вердыкту Еўрапейскага суду ў Страсбургу ад сьнежня 2001 году, малдоўскі ўрад быў абавязаны зарэгістраваць Бесарабскую мітраполію Румынскай Праваслаўнай Царквы і выплаціць ёй кампенсацыю ў памеры 27025 еўра «за матэрыяльныя і нематэрыяльныя страты і ў лік судовых расходаў» у сувязі з адмовай у яе рэгістрацыі. Тэрмін на выкананьне рашэньня — паўгады. Нягледзячы на ўсе спробы адцягнуць выкананьне рашэньня, парламент прыняў неабходныя зьмены ў заканадаўстве аб рэлігіі і 31 ліпеня 2002 году, у апошні дзень адведзенага судом тэрміну, БПЦ атрымала рэгістрацыю.

Новы закон перадае паўнамоцтвы па рэгістрацыі рэлігійных арганізацыяў ад ураду Дзяржаўнай службе па справах культаў і дае ёй больш паўнамоцтваў. Разам з тым, ён значна спрашчае працэдуру рэгістрацыі рэлігійных суполак, адмяняе іх абавязковую рэгістрацыю.

Паводле словаў а. Віктара Рэтэзану, Бесарабская Праваслаўная Царква мае ў Малдове 68 парафіяў, у якіх працуе 75 сьвятароў. Большасьць парафіяў ня мае адпаведных царкоўных будынкаў і вымушаны карыстацца часовымі капліцамі ці маліцца ў прыватных дамах. Таму атрыманую нядаўна грашовую кампенсацыю ад ураду Царква мяркуе скарыстаць для будаўніцтва новых храмаў. ❑

# ЕРУСАЛІМ ЧАКАЕ МУЗЫКАЎ РОЗНЫХ КАНФЕСІЯЎ

***З 19 па 30 верасьня 2002 году на Сьвятой Зямлі ў Ерусаліме ў даліне Кедрону адбудзецца міжнародны хрысьціянскі музычны фэст "Даліна песьні песьняў".***

На фэст зьбяруцца прадстаўнікі ўсіх хрысьціянскіх канфесіяў сьвету, каб разам у песьнях праслаўляць Бога і маліцца за мір у Ерусаліме і па ўсёй зямлі. Удзельнікам фэсту прапануюцца тэмы для песьняў, сярод якіх любоў да Хрыста, пажаданьні міру Ерусаліму і будучае прыйсьце Хрыста. Падчас фэсту, які праводзіцца пры падтрымцы Ерусалімскага муніцыпалітэту, адбудзецца конкурс на лепшую песьню, пераможцы якога прымуць удзел у канцэртах праслаўленьня Бога па ўсім сьвеце. Арганізатары фэсту плануюць у будучыні ладзіць падобныя музычныя акцыі і ў іншых краінах сьвету. ❑

# УКРАІНСКІЯ ВЕРНІКІ ЎШАНУЮЦЬ МЕНСКУЮ КОПІЮ ТУРЫНСКАЙ ПЛАШЧАНІЦЫ

***28 верасьня 2002 году, на сьвята Крыжаўзвышэньня па юльянскім календары, з Беларусі ва Украіну будзе дастаўлена менская копія Турынскай Плашчаніцы. Як адзначыў адміністратар катэдральнага сабору сьвятога Юра ў Львове а. Раман Краўчык, акцыя ажыцьцяўляецца з блаславеньня кіраўніка Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы кардынала Любаміра Гузара й кіраўніка Рыма-Каталіцкай Царквы ў Беларусі кардынала Казіміра Сьвёнтка. Па просьбе грэка-католікаў Украіны гэтая рэліквія год будзе знаходзіцца па-за межамі Беларусі.***

З прычыны таго, што сапраўдную Плашчаніцу, у якую было загорнута цела Ісуса Хрыста пасьля ўкрыжаваньня, нельга вывозіць за межы Турыну, украінцы змогуць ушанаваць менскую копію рэліквіі. Сярод шасьці фотакопіяў Турынскай Плашчаніцы, якія ёсьць у сьвеце (адна з іх — у храме Срэценскага манастыра ў Маскве), копія рэліквіі, што захоўваецца з 5 траўня 2002 году ў касьцёле сьв. Сымона і Алены ў Менску самая дасканалая. Яна была асьвячана ў Турыне 28 красавіка 2002 году, у момант гэтай цырымоніі падчас сьв. Імшы фотакопія была пакладзена на арыгінальную Турынскую Плашчаніцу.

Для правядзеньня ўрачыстай цырымоніі перадачы копіі савану ў Менск прыедуць 20 грэка-каталіцкіх сьвятароў з Украіны. Пасьля сьв. Літургіі, якую будуць саслужыць беларускія і ўкраінскія каталіцкія сьвятары лацінскага і візантыйскага абраду, копія Плашчаніцы авіярэйсам будзе дастаўлена ў аэрапорт Львова і ўрачыста перанесена вернікамі ў катэдральны сабор горада. «Копія плашчаніцы ўжо стала рэліквіяй, бо ў Чырвоным касьцёле ў Менску перад ёй маліліся многія людзі. Акцыя, якая мае адбыцца, будзе мацаваць дружбу грэка-католікаў, рыма-католікаў і праваслаўных, хрысьціянаў Беларусі і Украіны»,— мяркуе яе ініцыятар а. Раман Краўчык.

# ЭКУМЕНІЧНЫ ФОРУМ У ПАЛЕРМА

***У італійскім горадзе Палерма па ініцыятыве Супольнасьці сьв. Эгідыя 1-3 верасьня 2002 г. адбыўся экуменічны форум "Рэлігія і культура: паміж канфліктам і дыялогам". Невыпадкова месцам правядзеньня форуму абраны гэты сіцылійскі горад. Спакон веку Палерма зьяўляецца своеасаблівым перакрыжаваньнем культур і рэлігіяў. Асаблівую актуальнасьць сустрэчы надалі трагічныя падзеі 11 верасьня мінулага году і іх наступствы.***

Падчас форуму адбыліся 24 канферэнцыі, якія ладзіліся ў розных кварталах Палерма з удзелам рэлігійных суполак.

Больш за чатыры тысячы прадстаўнікоў розных рэлігіяў сабраліся на плошчы Політэама ў Палерма. Да пачатку гэтай сустрэчы ўдзельнікі форуму — каталікі, праваслаўныя, пратэстанты, мусульмане і юдзеі — шчыра маліліся, кожны ў сваёй канфесійнай суполцы. Перад прысутнымі выступілі Прэзідэнт Папскай Рады па спрыяньні еднасьці хрысьціянаў кардынал Вальтар Каспэр, прадстаўнік Канферэнцыі рабінаў Еўропы Рэнэ Самуэль Сера, ісламскі тэолаг з Марока Мухамед Ісмаілі, прадстаўнікі Расейскай Праваслаўнай Царквы і іншых сусьветных рэлігіяў.

Удзельнікі форуму лічаць, што "сьвет мае патрэбу ў надзеі, а глабалізацыя павінна быць ня толькі свабоднай цыркуляцыяй тавараў, але й глабалізацыяй надзеі, салідарнасьці, дыялогу і бясьпекі".

Таксама яны зьвярнуліся да тэрарыстаў і забойцаў з заклікам спыніць гвалт і вярнуцца да дыялогу. Парадаксальным чынам пагроза глабальнага тэрарызму і пэўная кансалідацыя сусьветных дзяржаваў у барацьбе з ім прывялі да новага вітка глабалізацыі, якая і была часткова прычынай тэрору.

Дэлегаты форуму зьвярнуліся з "Заклікам да сьвету", у якім гаворыцца, што "боль сьвету патрабуе аб'яднаньня намаганьняў вернікаў і тых, хто ня верыць".

# АПОСТАЛЬСКІЯ ПАДАРОЖЖЫ СЬВЯТОГА АЙЦА

Пасьля свайго падарожжа ў Таронта (Канада) на XVII Сусьветны дзень моладзі, дзе Папа маліўся разам з 300-тысячнай грамадой моладзі са 169 краінаў сьвету, наступнай краінай пастырскага візіту (30 ліпеня) стала Гватэмала. Тут яшчэ нядаўна 99% насельніцтва былі каталікі, а цяпер — толькі 70%. Ян Павел II кананізаваў першага сьвятога гэтай краіны — брата Пэдра Бэтанкура, які стаўся сапраўдным апекуном бедных і пакінутых. На гэтую сьв. Імшу прыйшлі амаль 800 тысячаў вернікаў. Сёньня ўсе адзначаюць, што візіт Сьвятога Айца паспрыяў умацаваньню веры мясцовых католікаў. 31 ліпеня 2002 году Папу цёпла і гасьцінна вітала Мексіка — другая ў сьвеце краіна па колькасьці католікаў. Ян Павел II кананізаваў індзейца Хуана Дыега і абвясьціў блаславёнымі двух мучанікаў, якія загінулі за веру Хрыстову ў 1700 г. Разьвітваючыся з Рымскім Архірэем, многія мексікацы не маглі стрымаць сьлёзаў радасьці і ўдзячнасьці.

16-19 жніўня адбылося дзявятае пастырскае падарожжа Сьвятога Айца Яна Паўла II у Польшчу. Гэта быў 98 замежны візіт за час яго пантыфікату. На Бацькаўшчыне Папу сустрэлі, як заўсёды, сардэчна і шчыра — так як сустракаюць свайго бацьку, якога любяць і якім ганарацца. Пра гэта яскрава гаворыць статыстыка: на малітоўных сустрэчах са Сьвятым Айцом у Кракаве і ваколіцах агулам узялі ўдзел 3,5 мільёны вернікаў. А на Сьвятой Імшы, якую Папа адслужыў на Блонях, разам з ім малілася звыш двух мільёнаў вернікаў. Сярод пілігрымаў на набажэнствах з удзелам Сьвятога Айца былі таксама і вернікі з Беларусі — каля трох сотняў чалавек.

Асноўнаю мэтаю візіту Папы было асьвячэньне санктуарыюму Божай Міласэрнасьці ў Кракаве-Лагеўніках, дзе спачываюць мошчы сьвятой Фаўстыны Кавальскай — вялікай місіянеркі Божай Міласэрнасьці.

# ПАПА ЯН ПАВЕЛ II КАНАНІЗАВАЎ ПАДРЭ ПІО

***16 чэрвеня Папа Ян Павел II абвясьціў сьвятым Падрэ Піо — італійскага манаха-капуцына, які вядомы ва ўсім сьвеце як спаведнік і містык. Акт кананізацыі, не зважаючы на сьпёку, адбыўся ў прысутнасьці 250 тысячаў вернікаў на плошчы сьв. Пятра ў Рыме і стаў адным з самых масавых мерапрыемстваў у італійскай сталіцы з часу юбілейных сьвяткаваньняў 2000 году.***

Падрэ Піо праславіўся яшчэ пры жыцьці як дасьведчаны духоўнік, празорца, цудатворца і стыгматык. Па 10-12 гадзінаў у дзень ён праводзіў у спавядальні, прымаючы споведзі шматлікіх паломнікаў у маленькім мястэчку Сан-Джаваньні Ратонда, а рэшту часу прысьвячаў малітве. Падрэ Піо насіў стыгматы — знакі Хрыстовых ранаў — на далонях, руках і нагах. Ён таксама праславіўся надзвычайным дарам «чытаць у сэрцы». Ад часу ягонай сьмерці ў 1968 г. постаць Падрэ Піо прыцягвае ўсё больш людзей і шмат вернікаў сьведчаць пра цуды, якія адбываюцца за ягоным пасярэдніцтвам. У справе беатыфікацыі Падрэ Піо важную ролю адыгралі асабістыя сьведчаньні Папы Яна Паўла II, які ў 1962 годзе, будучы яшчэ Кракаўскім біскупам, напісаў Падрэ Піо ліст з просьбай маліцца за жанчыну, хворую на рак горла. Праз 11 дзён хвароба бясьсьледна зьнікла. У 1998 г. Кангрэгацыя па справах абвяшчэньня сьвятых вывучыла гісторыю цудоўнага ацаленьня італійкі, якая адужала ў 1995 г. ад траўмы шыі, і выдала дэкрэт пра цудоўнае ацаленьне, прыпісанае заступніцтву Падрэ Піо. Гэта стала першым крокам да афіцыйнай беатыфікацыі, якая адбылася 2 траўня 1999 году. Вырашальным момантам у справе кананізацыі Падрэ Піо сталася адужаньне 6-гадовага хлопчыка Матэа Піо Калелі (далёкага сваяка Падрэ Піо), якое мела месца два гады таму. Лекары паставілі яму дыягназ «гнойны менінгіт» і ўважалі ягоны стан безнадзейным, але хлопчык раптоўна адужаў — пасьля таго, як маці і манахі-капуцыны цэлую ноч маліліся і прасілі заступніцтва Падрэ Піо перад Богам.

Сёньня некалі маленькае мястэчка Сан-Джаваньні Ратонда на беразе Адрыятыкі займае першае месца сярод паломніцкіх цэнтраў Эўропы (амаль 8 мільёнаў пілігрымаў у год) і другое пасьля Гвадэлупскай базілікі ў Мехіка.

# КАШТОЎНЫ ДАР ГРУЗІНСКАМУ НАРОДУ

Каталікос-Патрыярх усёй Грузіі Ільля II 15 жніўня 2002 году ў Тбілісі прыняў дэлегацыю Каталіцкай Царквы на чале з былым архібіскупам Венецыі кардыналам Марка Чэ. Яны прывезьлі ў дар Грузінскай Праваслаўнай Царкве часьцінку мошчаў сьв. Апостала Андрэя Першапакліканага.

У размове з кіраўніком Грузінскай Праваслаўнай Царквы госьці з Італіі распавялі, што гэтыя рэліквіі захоўваліся ў іх з 1208 году, а дагэтуль яны знаходзіліся ў канстанцінопальскай царкве Сьвятых апосталаў. Таксама было адзначана, што падобны каштоўны дар не апошні. Шанаваныя вернікамі Праваслаўнай Царквы рэліквіі, якія цяпер захоўваюцца ў Ватыкане, будуць перадавацца і ў далейшым. Напрыканцы сустрэчы Каталікос-Патрыярх Ільля II падараваў гасьцям ікону сьв. Юрыя Пераможцы, апекуна Грузіі.

# АНГЛІКАНСКАЯ І КАТАЛІЦКАЯ ЦЭРКВЫ ЎХВАЛІЛІ ЗАКОНАПРАЕКТ СУПРАЦЬ РАСПАЎСЮДЖВАНЬНЯ РЭЛІГІЙНАЙ НЯНАВІСЬЦІ

***Камісія па рэлігійных пытаньнях Палаты лордаў Вялікай Брытаніі прыняла да разгляду падтрыманы Царквой Англіі і Канферэнцыяй каталіцкіх біскупаў Вялікай Брытаніі законапраект супраць распаўсюджваньня рэлігійнай нянавісьці.***

«Устанаўленьне добрых стасункаў паміж прадстаўнікамі рэлігійных групаў і этнічных меншасьцяў — нялёгкая задача. Для гэтага неабходны эфектыўны закон, які будзе абараняць рэлігійныя правы як рэлігійных групаў, так і канкрэтных асобаў»,— лічыць каталіцкі архібіскуп Кардыфу Пітэр Сьміт. Спасылаючыся на II Ватыканскі Сабор, архібіскуп адзначыў, што любоў да Бога «зьнішчае падставы ўсякай тэорыі або практыкі, якая ўводзіць розьніцу ў чалавечай годнасьці і ў правах, што вынікаюць з яе... Вось чаму Царква асуджае як супрацiўную духу Хрыстову ўсякую дыскрымінацыю і ўціск людзей, якія паўстаюць з іх нацыянальнай прыналежнасьці, колеру скуры, грамадзкага становішча ці веравызнаньня». Ён таксама дадаў, што ў свабодным грамадзтве павінны мець месца палкія дэбаты, спрэчкі, крытыка і нават сатыра, але гэта не мусіць перарастаць у расавую ці міжрэлігійную варожасьць.

# МЕЛЬХІЦКІ ПАТРЫЯРХ ПРЫЕДЗЕ З ВІЗІТАМ ВА ЎКРАІНУ

***23 верасьня 2002 году з візітам ва Ўкраіну ўпершыню прыедзе Патрыярх Мельхіцкай Грэка-Каталіцкай Царквы Рыгор III. Сярод усходне-каталіцкіх Цэркваў гэтая Царква па колькасьці вернікаў (каля 1 млн.) сёньня займае другое месца ў сьвеце пасьля УГКЦ.***

Яго Блаславенства Патрыярх Рыгор III падчас візіту, які будзе трываць да 30 верасьня, пабывае ў Львове, Івана-Франкоўску, наведае Уніўскую Лаўру, Тарнопаль, зробіць паломніцтва на радзіму украінскага патрыярха-вызнаўцы Ёсыфа Сьліпога ў с.Заздрасьць, а таксама памоліцца ля цудатворнай іконы Маці Божай у Зарваніцы. 28 верасьня Яго Блаславенства будзе браць удзел у цырымоніі сустрэчы копіі Турынскай Плашчаніцы, якая будзе дастаўлена з Беларусі. Падчас візіту ўсходне-каталіцкі Патрыярх сустрэнецца таксама з праваслаўнымі ярархамі Украіны.

Сёньня Мельхіцкая Грэка-Каталіцкая і Антыяхійская Праваслаўная Цэрквы маюць вельмі добрыя сяброўскія стасункі. Немалая заслуга ў гэтым асабіста Патрыярха Рыгора III. Яшчэ як сакратар Экуменічнай камісіі Мельхіцкага Патрыярхату ён браў актыўны ўдзел у дыялогу паміж двума Цэрквамі-сёстрамі — Мельхіцкай Грэка-Каталіцкай і Грэцкай (Антыяхійскай) Праваслаўнай.

# РАСЕЙСКІЯ КАТОЛІКІ ПРОСЯЦЬ ДАПАМОГІ

***Старшыня Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Расеі архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч выступіў са Зваротам да расейскіх і міжнародных праваабарончых арганізацыяў і да ўсіх людзей добрай волі, у якім просіць праявіць салідарнасьць і дапамагчы абараніць правы расейскіх католікаў.***

«На нашых вачах зноў разыгрываецца драма Каталіцкай Царквы ў Расеі»,— сьцьвярджае ў сваім Звароце архібіскуп Кандрусевіч.— У апошні час у краіне разгорнута шырокамаштабная антыкаталіцкая кампанія: мітынгі і пікеты, забароны на будаўніцтва храмаў, акты вандалізму і зьнявагі культавых будынкаў, фармаваньне міфалагізаванага вобразу «католіка-ворага» і г.д.». Усе гэтыя выпрабаваньні католікі Расеі пераносяць з малітваю і хрысьціянскай лагоднасьцю.

Аднак у апошнія месяцы ў Расеі вернікі пачалі пазбаўляцца нармальнай душпастырскай апекі, бо пачалася сістэматычная высылка сьвятароў-замежнікаў. «Гэта робіцца дэманстратыўна, суправаджаецца грубасьцю і зьнявагамі пры поўнай адсутнасьці тлумачэньняў прычынаў высылкі»,— адзначаецца ў Звароце архібіскупа Т.Кандрусевіча.

Пастыр расейскіх католікаў заклікае: "Не дапусьціце, каб у краіне, якая перажыла Галгофу XX ст., зноў зьневажалася свабода сумленьня!" ❑

# ПАДЧАС ПРЫЧАСЬЦЯ КАТОЛІКІ НЕ ПАВІННЫ КЛЕНЧЫЦЬ

***У ліпені 2002 году літургічная камісія Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў ЗША зрабіла афіцыйную заяву, у якой гаворыцца, што падчас Тайны сьв. Прычасьця католікі не павінны кленчыць.***

У інфармацыйным бюлетэні літургічнай камісіі сказана, што «падчас Прычасьця вернікі павінны стаяць». Камісія адзначае, што «калі толькі біскуп пэўнай япархіі наўмысна не адыходзіць ад гэтае нормы — з прычыны індывідуальных або надзвычайных абставінаў — кленчаньне не зьяўляецца належнай пазіцыяй падчас Прычасьця ў япархіях Злучаных Штатаў».

Літургічная камісія таксама адзначае, што Еўхарыстыя «самым глыбокім чынам аб'ядноўвае нас з Хрыстом, які дзеля Свайго слаўнага ўваскрасеньня з мёртвых зьяўляецца крыніцай нашага збаўленьня». А схіленьне на калені, наадварот, нібы аддаляе вернікаў ад Бога. У часы раньняй Царквы кленчаньне сьведчыла пра пакаяньне: усьведамленьне нашай грахоўнасьці прыніжала нас да зямлі. Менавіта таму першым хрысьціянам забаранялася стаяць на каленях падчас нядзельных літургіяў і на працягу ўсяго Пасхальнага часу, калі дух багаслужбы напоўнены радасьцю і падзякаю. ❑

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленьняў Агенцтва рэлігійнай інфармацыі (АРІ), KAI, AGNUZ і іншых прэсавых крыніцаў.*

## ШТО ДУМАЮЦЬ У СЬВЕЦЕ ПРА ЗАКОНАПРАЕКТ АБ СВАБОДЗЕ ВЕРАВЫЗНАНЬНЯЎ У БЕЛАРУСІ

Расейскі інстытут рэлігіі і права, які падрыхтаваў экспэртнае заключэньне на праект новага закону аб свабодзе веравызнаньняў у Беларусі, адзначае, што дэпутатам Нацыянальнага сходу наўмысна не былі даведзены крытычныя заўвагі па цэлым шэрагу артыкулаў законапраекту, а менавіта яны «істотным чынам абмяжоўваюць свабоду сумленьня і веравызнаньня ў Рэспубліцы Беларусь і ў выпадку прыняцьця могуць выклікаць масавыя парушэньні правоў вернікаў і рэлігійных аб'яднаньняў».

У Дэкларацыі заклапочанасьці, прынятай дэлегатамі V Сусьветнага Кангрэсу Міжнароднай асацыяцыі рэлігійнай свабоды, які праходзіў пад дэвізам «Рэлігійная свабода — аснова міру і справядлівасьці» 10-13 чэрвеня 2002 году ў Маніле (Філіпіны), у адным з шасьці пунктаў асабліва адзначаецца сітуацыя ў Беларусі. У дакуменце адзначаецца, што «ўрад Беларусі мяркуе прыняць новы закон, які забароніць незарэгістраваным рэлігійным групам праводзіць сходы ці займацца іншай рэлігійнай дзейнасьцю; увядзе цэнзуру рэлігійнай літаратуры ды іншых сродкаў масавай інфармацыі, якія выкарыстоўваюць рэлігійныя супольнасьці; дазволіць іншыя віды дыскрымінацыі рэлігійных групаў». «У выпадку прыняцьця гэтага закону,— гаворыцца ў Дэкларацыі заклапочанасьці,— рэлігійная свабода ў Беларусі будзе істотна абмежавана».

Кангрэс заклікаў урады, грамадзкія інстытуты і прыватных асобаў зьвярнуць увагу на падобныя сур'ёзныя выпадкі, якія «нясуць пагрозу міру, справядлівасьці і бясьпецы ў сувязі з парушэньнямі рэлігійнай свабоды і свабоды перакананьняў», а таксама выказаў сваю падтрымку, спачуваньне і салідарнасьць з ахвярамі рэлігійнай дыскрымінацыі, нецярпімасьці і перасьледу.

«Урад ЗША выказвае занепакоенасьць з прычыны новага законапраекту пра рэлігію»,— гаворыцца ў заяве, якую распаўсюдзіла пасольства ЗША ў Беларусі.

Аўтары дакументу сьцьвярджаюць, што мэта законапраекту — стварэньне перашкодаў для дзейнасьці рэлігійных групаў, якія «беларускі ўрад на ўласны погляд залічвае да нетрадыцыйных канфесіяў», што супярэчыць міжнародным прынцыпам рэлігійнай свабоды і правам чалавека».

«Мы заклікаем парламент і ўрад Беларусі,— гаворыцца ў заяве,— зрабіць неабходныя захады для таго, каб праект закону пра рэлігію забясьпечваў усім грамадзянам, незалежна ад іх веравызнаньня, роўныя правы на бесьперашкоднае правядзеньне богаслужэньняў у поўнай згодзе з міжнароднымі нормамі свабоды рэлігіі».

Еўрапейскі зьвяз 27 жніўня 2002 году выступіў з заявай адносна сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. У прыватнасьці выказваецца трывога адносна праекту Закону аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях, які ўхвалены 27 чэрвеня дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў. Калі гэты закон будзе прыняты, лічаць у Брусэлі, гэта яшчэ болей абмяжуе свабоду сумленьня ў Беларусі.

Еўразьвяз занепакоены тым, што новы закон пракладзе шлях да дыскрымінацыі рэлігійных суполак, будзе адрозьніваць рэлігіі ў адпаведнасьці з іх карыснасьцю для ўладаў. Гэты закон,— гаворыцца ў заяве,— можа стаць сродкам для кантролю ўладаў над рэлігійнымі арганізацыямі.

Кестанская Служба навінаў, каментуючы прыняцьце ў Беларусі Палатай прадстаўнікоў законапраекту аб рэлігіі, адзначае, што «ў выпадку падпісаньня прэзідэнтам новы закон стане найбольш рэпрэсіўным законам аб рэлігіі сярод былых савецкіх рэспублік пасьля Туркменістану і Узьбекістану». (Кестанскі інстытут займаецца дасьледаваньнем сітуацыі ў сферы свабоды рэлігіі ў камуністычных і посткамуністычных краінах. Інстытут знаходзіцца ў Вялікай Брытаніі і зьяўляецца незалежнай арганізацыяй, якая не фінансуецца з дзяржаўных крыніцаў).

*Прапануем чытачам газеты "Царква" скарочаны варыянт дакладу Вітаўта ПАРФЯНЕНКІ, магістранта тэалогіі ва Ўнівэрсітэце кардынала Стэфана Вышынскага ў Варшаве, які прагучаў на міжнароднай канферэнцыі "Рэлігія і дэмакратыя" ў Раўбічах 6-7 жніўня 2002 году. Прысьвечаны ён прынятаму Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь закону аб свабодзе веравызнаньняў.*

# Заўвагі да закону Рэспублікі Беларусь "Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях"

*(ПУНКТ ГЛЕДЖАНЬНЯ ВЕРНІКАЎ ПАРАФІЯЎ БГКЦ)*

1. Закон Рэспублікі Беларусь "Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях" у рэдакцыі, прынятай 27.06.2002 г. выклікае рашучы пратэст у вернікаў з парафіяў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.

Перадусім не зразумела, чаму старая назва закону – "Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях" была заменена на новую — "Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях"? Хіба заканадаўцы хацелі замяніць «свабоду вызнаньняў» на менш акрэсьленую «свабоду сумленьня»?

2. Можна пагадзіцца з тым, што стары Закон ад 17.12.1992 г. патрабаваў пэўнай актуалізацыі й удакладненьня. Чакалася, што гэта маюць быць зьмены, накіраваныя на рэальнае пашырэньне свабодаў грамадзянаў у вобласьці веравызнаньняў, у духу сапраўднай дэмакратыі. Мы пазітыўна ацэньваем артыкулы 4, 5, 6 і 7 новага Закону, якія гарантуюць раўнапраўе рэлігіяў перад законам.

На жаль, шэраг артыкулаў Закону, што прынятыя Палатай прадстаўнікоў 27 чэрвеня 2002 г., ідзе акурат у адваротным напрамку і вяртае нас у недалёкае таталітарнае мінулае: **максімальна абмяжоўваюцца свабоды рэлігійных арганізацыяў і ўзмацняецца дзяржаўны кантроль над імі**. Нібы найважнейшая мэта дзейнасьці рэлігійных арганізацыяў — парушэньне заканадаўства Рэспублікі Беларусь, прынамсі, патэнцыйна.

Сьведчыць пра тое хаця б фармулёўка з **артыкулу 11** новага закону, у якой сьцьвярджаецца, што орган дзяржаўнага ўпраўленьня па справах рэлігіяў «правярае і кантралюе дзейнасьць рэлігійных арганізацыяў у частцы выкананьня імі заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб свабодзе сумленьня, веравызнаньня і рэлігійных арганізацыях». Для чаго ж тады існуе пракуратура, якая згодна з Канстытуцыяй абавязана правяраць і кантраляваць выкананьне ўсіх законаў Рэспублікі Беларусь?

3. Асабліва засмучае як вернікаў, так і кожнага разумнага чалавека **артыкул 14**, які ўстанаўлівае мінімальную колькасьць грамадзянаў, неабходных для рэгістрацыі рэлігійнай арганізацыі. Дадзены артыкул новага закону **павялічвае колькасьць грамадзянаў з 10 да 20 чалавек**. У гэтай частцы артыкул 14 ёсьць паваротам да савецкіх практык няслаўнае «дваццаткі» часоў перасьледу рэлігіі. Для людзей, якія памятаюць сталінскія, хрушчоўскія ды брэжнеўскія рэпрэсіі супраць вернікаў, зусім не зразумела, чаму у незалежнай ды суверэннай Рэспубліцы Беларусь аднаўляюцца гэткага тыпу патрабаваньні.

**Артыкул 15** рэгламентуе ўмовы ўтварэньня рэлігійных аб'яднаньняў. Сам факт таго, што гэты артыкул **вымагае існаваньня прынамсі аднай суполкі ня менш як 20 гадоў і каб агульная колькасьць суполак на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь была ня менш за 10, ставіць веравызнаньні ня ў роўныя стартавыя магчымасьці**. Рэспубліка Беларусь, як незалежная дзяржава, 20 гадоў таму наогул не існавала. Камуністычныя ганеньні грамадзянаў, якія прытрымліваліся розных веравызнаньняў, змушалі многіх займацца рэлігійнай дзейнасьцю ў падпольлі (напрыклад, грэка-каталіцкая суполка ў Горадні, на чале якой быў а. Віктар Данілаў, сёньняшні дэкан БГКЦ). Магчымасьці давесьці гэта ўскладняюцца менавіта па згаданай прычыне. Таму прапануем вярнуцца да фармулёвак Закону ад 17.12.1992.

4. Старшыня Экспэртнае Рады пры Камітэце па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Анатоль Круглоў на старонках газеты «Звязда» (ад 26.07.2002, с. 7) імкнецца давесьці, што колькасьць заснавальнікаў павялічана, "каб прадухіліць уплыў неакультаў". Незразумела, якім чынам? Тым больш, што ён жа трохі раней сьцьвярджае, што пры рэгістрацыі рэлігійнай суполкі не ўдакладняецца, якога веравызнаньня заснавальнік. Лічым таксама неабходным **увесьці такі панятак, як рэлігійная група** — гэта такая група

грамадзянаў, якая можа складацца з прадстаўнікоў адной альбо колькіх канфесіяў, незалежна ад колькасьці людзей, для вырашэньня супольных задачаў рэлігійнага жыцьця. Такая група не павінна праходзіць рэгістрацыю, каб зьбірацца разам. Гэтая практыка мае гістарычныя карані, як у Беларусі, гэтак і ў Еўропе.

5. [...]

6. Належыць падкрэсьліць, што Закон у рэдакцыі ад 27 чэрвеня 2002 году перасычаны духам своеасаблівага псіхозу перад уяўнай пагрозай з боку сектаў і неакультаў. Больш за тое, нельга быць перакананым у тым, што дзесьці ў правінцыі, нейкаму канкрэтнаму чыноўніку ня прыйдзе ў галаву залічыць да сектаў, напрыклад, баптыстаў, прысутных на землях Беларусі ўжо колькі сот гадоў. Неадукаванасьць грамадзтва (і чынавенства) у рэлігійнай сферы ўсьцяж аграмадная.

7. Беларускія грэка-каталікі (уніяты), традыцыйна прысутныя ў Беларусі ўжо больш як 400 гадоў. Нашая Царква перажыла шмат складаных момантаў: у XIX стагоддзі — брутальную інтэрвенцыю расейскага царызму ў жыцьцё Царквы, за савецкім часам — перасьледы, якія прымусілі вернікаў сысьці ў падпольле. Таму мы вельмі балюча ўспрымаем любыя законы і дзеяньні дзяржаўных органаў, якія абмяжоўваюць рэлігійныя свабоды кагосьці.

Мы цьвёрда трымаемся пазіцыяў, якія былі адлюстраваны на Другім Ватыканскім Саборы Каталіцкай Царквы ў Дэкларацыі пра рэлігійную свабоду («Dignitatis humanae»), якая падкрэслівае правы асобаў і рэлігійных супольнасьцяў на свабоднае, супольнае практыкаваньне сваёй рэлігіі (гл. ДРС п. 4).

Лічым, што найлепшым спосабам супрацьдзеяньня сектам і неакультам будзе годная пастырская праца сьвятароў, а таксама прыклад шляхотнага жыцьця вернікаў традыцыйных Цэркваў ці канфесійных Супольнасьцяў, а не адміністратыўнае ўзвышэньне асобных канфесіяў.

Хоць мы, як грэка-каталікі, вызнаем дактрыну Каталіцкай Царквы і ў многіх дактрынальных пунктах розьнімся з баптыстамі ці пяцідзясятнікамі, але мы выступаем супраць такіх зьменаў у законе, якія абмяжоўваюць рэлігійныя свабоды пратэстанцкіх канфесіяў.

8. Рашучы пратэст вернікаў парафіяў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы выклікае **артыкул 26** новага Закону, які ўводзіць гэтак званую «рэлігіязнаўчую экспертызу» для рэлігійнай літаратуры і іншых інфармацыйных матэрыялаў. Гэта зноў выглядае як паварот да «мінулых часоў» цэнзуры і татальнага кантролю над распаўсюджваньнем рэлігійнай літаратуры і іншых матэрыялаў. Як стасаваць зьмест артыкулу 26 з рэальным правам на свабоду веравызнаньня?

Правядзеньне дзяржаўнай рэлігіязнаўчай экспертызы азначае **ўвядзеньне дзяржаўнай цэнзуры на рэлігійную літаратуру.** Але рэлігія адлучана ад дзяржавы. Ці азначае гэта, што практыка праверкі літаратуры, што мае дасылацца з-за мяжы, будзе падобная на тую, што мела месца ў камуністычныя часы і азначала грубае ўмяшаньне ў рэлігійныя справы? Хіба ў інтарэсах дзяржавы або грамадзтва цярпець дадатковыя фінансавыя выдаткі ад тых кантроляў і цэнзуры?

9. Незразумелая тэндэнцыя да цэнтралізацыі (і татальнага кантраляваньня) усялякіх аспэктаў рэлігійнай дзейнасьці выразна прасочваецца ў **артыкуле 27**, які чамусьці толькі «рэлігійным аб'яднаньням» дае права «ствараць сродкі масавай інфармацыі». **Чаму манастыр альбо іншая грамада ня можа ствараць выдавецтвы, выпускаць газеты** і г. д.? Бо менавіта яны могуць больш плённа ўлічваць інтарэсы і патрэбы канкрэтных вернікаў, аказваць пазытыўны ўплыў у змаганьні з грамадзкімі паталогіямі — алкагалізмам, наркаманіяй, карупцыяй і г. д.

10. 12 гадоў таму частка вернікаў БГКЦ урэшце выйшла з падпольля ды пачала аднаўляць нармальнае рэлігійнае жыцьцё ў суверэннай Рэспубліцы Беларусь. Храмы, якія будавалі нашыя продкі, так і не былі перададзены нам, але толькі праваслаўным (кляштар базыльянак у Горадні, Петрапаўлаўская царква ў Менску і г. д.).

На працягу мінулага дзесяцігоддзя кіраўніцтва нашае Царквы сьвядома не хацела ўваходзіць у канфлікт з братамі-праваслаўнымі стасоўна нашых сьвятыняў, якія знаходзяцца ў руках праваслаўных. На дадзены момант мы ня маем ніводнага храму, толькі некалькі капліцаў. Зразумела, такім чынам, што **значная частка нашай душпастырскай працы праходзіць сёньня ў прыватных дамах і памяшканьнях. Новы Закон (артыкул 25) практычна забараняе такую дзейнасьць.**

**У артыкуле 31** прапануем пашырыць вырашэньне спрэчак аб уладаньні культавымі будынкамі ды маёмасьцю ў судовым парадку, не зважаючы на тэрмін гістарычнай даўнасьці.

11. Вернікі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы адмоўна ацэньваюць Закон Рэспублікі Беларусь "Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях" у рэдакцыі, прынятай 27 чэрвеня 2002 г., таму што бачаць **магчымасьці да несправядлівых абмежаваньняў рэлігійных свабодаў усіх неправаслаўных канфесій** з боку дзяржаўнага чынавенства рознага рангу, з чым, зрэшты, сустракаемся ўжо колькі гадоў у многіх нашых парафіях.

Як адзін з найбольш яскравых прыкладаў — наша парафія ў Слоніме (Альбярціне). Гэтая грамада ў колішнім слонімскім прадмесьці Альбярцін здолела захавацца нават пасьля татальнай ліквідацыі савецкімі уладамі ўсіх грэка-каталіцкіх парафіяў у Заходняй Беларусі ў 1939 г. Таксама, у Альбярціне, у 1942 г. быў арыштаваны нямецкім гестапа наш экзарх-мучанік а. Антон Неманцэвіч. Але ўжо больш як 7 гадоў мы ня можам дабіцца рэгістрацыі парафіі, бо чыноўнікі ствараюць для нас чарговыя штучныя перашкоды, ажно да ціску на вернікаў з мэтаю, каб адклікалі свае подпісы.

12. Абапіраючыся на вопыт мінулых гадоў, можам канстатаваць, што ўвесь час сустракаемся са спробамі штучнага ўзвышэньня Праваслаўнай Царквы. І менавіта таму ўважаем, што **прэамбула новага Закону павінна быць зьнята.**

Не зважаючы на тое, што старшыня Экспертнай Рады пры Камітэце па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў Анатоль Круглоў на старонках "Звязды" сьцьвярджае (гл. вышэй), што прэамбула не вылучае аніякае канфесіі, а толькі «фіксуе тое становішча, якое склалася ў нас на дадзены момант», мы лічым, калі прэамбула шляхам «фіксаваньня» вылучае адныя канфесіі (з праваслаўем на чале), а іншыя ставіць у горшае становішча, то гэтага дастаткова чыноўнікам, каб трактаваць Праваслаўную Царкву як дзяржаўную рэлігію, а ўсе іншыя як штосьці чужое. Ужо на працягу апошніх месяцаў з вуснаў некаторых чыноўнікаў можна было пачуць, што новы закон стварае адну дзяржаўную рэлігію — праваслаўе. Такі па сутнасьці кантэкст сьвядомасьці многіх чыноўнікаў і грамадзтва Беларусі наогул.

13. У сьвятле таго, што ў вельмі скарочаным выглядзе было пададзена вышэй, грэка-каталікі сур'ёзна занепакоеныя рэальнай небясьпекай таго, што Закон Рэспублікі Беларусь "Аб свабодзе сумленьня й рэлігійных арганізацыях" у рэдакцыі ад 27 чэрвеня 2002 г. адкрывае шырокую дарогу да рэальнага абмежаваньня рэлігійных свабодаў з боку дзяржаўных чыноўнікаў розных узроўняў.

**Мы рашуча выказваемся за адхіленьне гэтага законапраекту Саветам Рэспублікі і прапануем распачаць працу над новай рэдакцыяй дадзенага закону пры ўдзеле прадстаўнікоў усіх канфесіяў Беларусі.**

## ПРА «ВЫЗНАЧАЛЬНУЮ РОЛЮ» ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ...

У 1998 годзе ў Менску ў выдавецтве «Экаперспектыва» накладам 5000 асобнікаў была выдадзена ўнікальная на сёньня навуковая праца беларускіх гісторыкаў В.Грыгор'евай, У.Завальнюка, У.Навіцкага, А.Філатавай па гісторыі канфесійных зьменаў у Беларусі ***«КАНФЕСІІ НА БЕЛАРУСІ»*** *(к. XVIII - XX ст.)*. Навуковы рэдактар — доктар гістарычных навук У.Навіцкі. Вось, што сьцьвярджаюць у ёй аўтарытэтныя беларускія навукоўцы:

*с. 43: «З часу далучэньня тэрыторыі Беларусі да Расейскай імперыі* ***практычна зьнікаўшае там праваслаўе*** *стала пануючай рэлігіяй. Але, нягледзячы на павелічэньне колькасьці вернікаў, якое адбылося ў асноўным за кошт скасаваньня ўніяцкай царквы,* ***яно ня стала ўплывовым.*** *[...] Слабаадукаванае, маючае вялікія сем'і праваслаўнае духавенства* ***не адыгрывала якой-небудзь значнай ролі*** *ў грамадзкім і палітычным жыцьці».*

*с. 71, разьдзел 2.2: «Палітыка* ***русіфікацыі насельніцтва*** *праз Праваслаўную Царкву».*

*с.73: «Многія пераходзілі ў праваслаўе* ***пад прымусам, у выніку шантажу і падману».***

*с.75: «К канцу XIX ст. большая частка насельніцтва Беларусі была праваслаўнай».*

*с. 321: «Нягледзячы на значныя колькасныя зьмяненьні ў БПЦ (Беларуская Праваслаўная Царква — рэд. «Царквы»), у канцы [19]90-х гг.* ***нават па фармальных прыкметах Беларусь згубіла свой пераважна праваслаўны характар.*** *[...] Пры захаваньні такой тэндэнцыі ў бліжэйшыя гады пратэстанты абыйдуць БПЦ па колькасьці афіцыйна зарэгістраваных абшчын».*

*ЯКОЙ ЖА ІНФАРМАЦЫЯЙ КАРЫСТАЛІСЯ РАСПРАЦОЎШЧЫКІ НОВАГА ЗАКОНУ АБ СВАБОДЗЕ ВЕРАВЫЗНАНЬНЯЎ?*

# Грамадзкія слуханьні: Ці будзе ў Беларусі свабода веравызнаньняў?

⇨ *Заканчэньне са с.3*

Падчас Грамадзкіх слуханьняў выявілася, што дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў няправільна інфармавалі пра рэакцыю на законапраект канфесіяў. Падчас свайго выступу дэпутат Уладзімір Парфяновіч (разам з дэпутатам Надзеяй Цыркун ён ласкава пагадзіўся ўдзельнічаць у грамадзкіх слуханьнях, каб даведацца пра хібы законапраекту непасрэдна ад прадстаўнікоў канфесіяў) сказаў, што паводле інфармацыі, якую ён меў напярэдадні слуханьняў, амаль усе канфесіі пагадзіліся са зьместам новага закону. Ён таксама запытаў, чаму, калі ёсьць столькі заўваг, канфесіі не прапаноўвалі свой варыянт законапраекту. Гэтыя словы выклікалі сьмех у зале. Бо на самой справе за найхутчэйшае прыняцьцё новага закону вельмі актыўна выступае адна толькі Расейская Праваслаўная Царква. А што да паправак і заўваг да законапраекту — у парламенцкую камісію было накіравана больш за чатыры сотні лістоў з прапановамі ад юрыдычных асобаў і вернікаў, аднак выявілася, што былі ўлічаны адно прапановы РПЦ. З іншымі заўвагамі да закону старшыня Камісіі па правах чалавека, нацыянальных узаемаадносінах і сродках масавай інфармацыі сп. Ліпкін чамусьці нават ня стаў знаёміць дэпутатаў...

> ***Генадзь БРУЦКІ-СТЭМПКОЎСКІ,*** *старшыня Аб'яднаньня цэркваў Евангельскіх хрысьціянаў-баптыстаў Менскай вобласьці:*
>
> *«**М**яне зьдзіўляе праект закону, які мы трымаем у руках. У Канстытуцыі напісана, што мэта нашай дзяржавы — пабудова дэмакратычнага, свабоднага грамадзтва, але ў той самы час нам навязваюць непрыхавана замоўлены закон, дзе ў грубай форме парушаюцца правы вернікаў. У ім няма элементарнае яснасьці, ён мае шмат супярэчнасьцяў, недагаворак, якія дазволяць чыноўнікам выкарыстоўваць палажэньні закону на свой пагляд...*
>
> *Калі ў нейкай мясцовасьці няма прадстаўнікоў нашай канфесіі, дык мы, у прынцыпе, і ня маем права там зусім зьяўляцца?»*

Такое непаважлівае стаўленьне да прапановаў прадстаўнікоў іншых канфесіяў выклікала буру эмоцыяў сярод удзельнікаў грамадзкіх слуханьняў. Практычна ўсе выступоўцы, за выключэньнем хіба прадстаўніка РПЦ А.Алешкі, які зьяўляецца рэферэнтам па юрыдычных пытаньнях Мітрапаліта Філарэта, зьвярталі ўвагу на самыя розныя недапрацоўкі ў законе, на тыя сур'ёзныя праблемы, што паўстануць у ягонай канфесіі пасьля прыняцьця гэтага закону. Ва ўсіх выступах гучала думка — такі закон будзе азначаць вяртаньне ў часы ганеньняў і рэпрэсіяў.

Па выніках Грамадзкіх слуханьняў быў прыняты Зварот да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, Савету Рэспублікі і Прэзідэнта, які падпісалі амаль усе ўдзельнікі слуханьняў. У ім выказваецца абурэньне пасьпешнасьцю і келейнасьцю распрацоўкі закону, адзначаецца, што праект Закону не адпавядае шэрагу артыкулаў Канстытуцыі краіны. Гэтак увядзеньне цэнзуры на друкаваную і прывезеную з-за мяжы прадукцыю рэлігійных арганізацыяў супярэчыць арт. 33, а неабходнасьць абавязковай рэгістрацыі рэлігійнай арганізацыі — арт. 31. Павелічэньне мінімальнай колькасьці вернікаў пры рэгістрацыі суполак да 20 чалавек супярэчыць ня толькі нацыянальным традыцыям асобных народаў і канфесіяў, але і міжнародным заканадаўчым актам, у якіх зафіксавана права без якіх-небудзь абмежаваньняў «аднаасобна або сумесна з іншымі вызнаваць любую рэлігію» (арт. 18 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, арт. 10 Канвенцыі Садружнасьці Незалежных Дзяржаў «Аб правах і асноўных свабодах чалавека», арт. 18 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, а таксама арт. 31 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь). Устанаўленьне ў новым законе часовага цэнзу для рэгістрацыі рэлігійнага аб'яднаньня (хаця б адна грамада рэлігійнага аб'яднаньня мусіць існаваць да 1982 г.!), супярэчыць арт.16 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь аб роўнасьці рэлігіяў і веравызнаньняў перад законам, а таксама арт. 6 самога закону, які прапануецца прыняць, у якім гаворыцца пра раўнапраўе ўсіх рэлігіяў. Гэта стварае непераадольныя перашкоды для разьвіцьця і дзейнасьці рэлігійных аб'яднаньняў, што паўсталі ў апошнія 20 гадоў. «Адным толькі гэтым артыкулам Закон вяртае грамадзтва да таталітарных парадкаў недалёкай мінуўшчыны, бо ўстанаўліваецца манаполія аднаго сьветапогляду за кошт гвалтоўнай ліквідацыі іншых і тым самым фактычна аб'яўляецца вайна дзяржавы з нацыянальнымі і рэлігійнымі меншасьцямі»,— гаворыцца ў Звароце.

Удзельнікі Грамадзкіх слуханьняў таксама аднадушна адзначаюць, што «прыняцьце далёкага ад дэмакратычных нормаў закону аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях непазьбежна прывядзе да падвышэньня і без таго высокага ўзроўню сацыяльнай напружанасьці ў Рэспубліцы Беларусь, што пагражае сацыяльным выбухам». З гэтай прычыны прадстаўнікі канфесіяў просяць дэпутатаў абодвух палатаў парламенту і прэзідэнта накласьці «вета» на прапануемы закон, забясьпечыць яго галоснае абмеркаваньне сярод вернікаў і прывесьці палажэньні закону ў адпаведнасьць з міжнароднымі стандартамі.

Тэкст Звароту быў перададзены ўсім дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, якія 26 чэрвеня разглядалі на сваёй сесіі ў другім чытаньні Закон «Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях». Пасьля бурных дыскусіяў адыёзны законапраект большасьцю галасоў удалося адхіліць. Аднак на наступны дзень гэта не перашкодзіла асобным дэпутатам, якія лабіруюць пэўныя інтарэсы РПЦ, аб'явіць выпікі галасаваньня сфальсіфікаванымі і арганізаваць новае галасаваньне. Як сьцьвярджаюць некаторыя СМІ, перад гэтым дэпутатаў запрашалі ў Епархіяльнае ўпраўленьне РПЦ на прагляд скандальна вядомага фільму «Экспансія». Пасьля ўзмоцненай апрацоўкі дэпутаты ўсё ж здаліся і за законапраект прагаласавалі...

Расейская Праваслаўная Царква такім чынам сьпяшаецца замацаваць свае так званыя «кананічныя тэрыторыі» і разам з тым зноў скіроўваецца на згубны шлях адзяржаўленьня

> ***Якаў БАСІН,*** *прэзідэнт Аб'яднаньня суполак прагрэсіўнага юдаізму:*
>
> *«**З**акон скіраваны супраць рэлігійных меншасьцяў. Прыняцьце гэтага закону станецца ўвядзеньнем манапалізацыі на духоўнае жыцьцё».*

Царквы і веры. Сёньня грамадзтву прапануецца «вызначальная роля Праваслаўнай Царквы». Але ж мы гэта ўжо праходзілі: у часы царскай Расеі праваслаўе таксама аказвала «вялікі ўплыў на ўсе бакі жыцьця грамадзтва», зьяўляючыся апорай самадзяржаўя. Асаблівы статус Праваслаўнай Царквы падтрымліваўся з дапамогаю сьпецыяльных законаў. Згодна са зборам законаў Расейскай імперыі 1857 году праваслаўнае веравызнаньне прызнавалася галоўным і пануючым у Расейскай імперыі. І гэта нягледзячы на тое, што царызм абвясьціў роўнасьць усіх веравызнаньняў у Расеі...

Здаецца, выснова з усяго гэтага сумная: колькі ні спрабавалі вернікі давесьці дзяржаўным мужам свой пагляд на будаўніцтва цывілізаваных дзяржаўна-рэлігійных стасункаў — нічога не атрымалася. Да іх не прыслухаліся. Але для вернікаў розных канфесіяў Беларусі ёсьць і станоўчы бок — гэта быў першы вопыт сумеснага адстойваньня агульных інтарэсаў, спроба дыялогу канфесіяў, канфесіяў і дзяржавы. Удалося бліжэй пазнаць адзін аднаго, зьніклі пэўныя стэрэатыпы ва ўспрыманьні адно аднаго, завязаліся сяброўскія сувязі, якія, магчыма, прывядуць да больш цеснага супрацоўніцтва вернікаў у розных сферах жыцьця. Будзем таксама верыць, што ня ўсё яшчэ страчана — наперадзе разгляд законапраекту ў Савеце Рэспублікі. А перапынак на некалькі месяцаў, якога ўдалося дабіцца і які адтэрміноўвае прыняцьце яўна сырога яшчэ закону, магчыма, дапаможа дэпутатам больш цьвяроза глянуць на праблемы ўсіх рэлігійных канфесіяў Беларусі і ўлічыць іх законныя інтарэсы. Хочацца спадзявацца, што слугі народу нарэшце пачуюць народ, праявяць сапраўдную дзяржаўную мудрасьць і вернуць закон на дапрацоўку. Аднак, што б ня вырашылі слугі народу, кожны сапраўдны вернік-хрысьціянін добра памятае словы Госпада: ***«Дзе двое альбо трое сабраныя ў імя Маё, там Я сярод іх»*** (Мц 18, 20). І ніхто, і нішто не забароніць ім зьбірацца разам дзеля Госпада! Для гэтага не патрэбныя нейкія адмысловыя месцы і дазволы, ня трэба чакаць, пакуль набярэцца 10 ці 20 чалавек, для гэтага патрэбна адно — ВЕРА.

**Ігар Бараноўскі**

> **«Прыняцьце далёкага ад дэмакратычных нормаў закону аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях непазьбежна прывядзе да падвышэньня і без таго высокага ўзроўню сацыяльнай напружанасьці ў Рэспубліцы Беларусь, што пагражае сацыяльным выбухам».**
>
> *Са Звароту ўдзельнікаў Грамадзкіх слуханьняў у Менску 24.06.2002*

# Праваабаронцыі і прадстаўнікі рэлігійных канфесіяў абмеркавалі законапраект аб свабодзе веравызнаньняў

***Законапраект «Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях», прыняты Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі, стаў асноўнай тэмай для абмеркаваньня міжнароднай канферэнцыі «Рэлігія і дэмакратыя», якая адбылася 6-7 жніўня 2002 году ў Раўбічах пад Менскам.***

Арганізатары форуму — ГА «Цэнтр па правах чалавека», які ўзначальвае вядомы праваабаронца Вера Страмкоўская,— сабралі разам прадстаўнікоў дзевяці канфесіяў, а таксама вядомых праваабаронцаў, навукоўцаў у галіне рэлігіязнаўства і права, дзяржчыноўнікаў і дэпутатаў Савету Рэспублікі. Усяго ў канферэнцыі бралі ўдзел больш за 70 чалавек, прагучала каля трох дзясяткаў дакладаў, у тым ліку эксперта Інстытуту правоў чалавека, члена рабочай групы Камітэту па справах грамадзкіх і рэлігійных арганізацыяў Дзярждумы Расейскай Федэрацыі Льва Левінсона, суддзі Канстытуцыйнага суда Беларусі Валянціна Шукліна, старшыні ГА «Прававая ініцыятыва» Барыса Звозскава, намесьніка старшыні ГА «Беларускі Хельсінскі камітэт» Гары Паганяйла, юрыста УП «Кансалтюрсервіс» Мікалая Арцюхова. З поглядам беларускіх грэка-католікаў на зьмены і дапаўненьні ў закон аб свабодзе веравызнаньняў пазнаёміў магістрант тэалогіі ў Варшаўскім унівэрсітэце кардынала Стэфана Вышынскага сп.Вітаўт Парфяненка з Горадні. З пазіцыяй Расейскай Праваслаўнай Царквы ўдзельнікаў канферэнцыі пазнаёмілі протаярэй Фёдар Поўны з Дэпартаменту па зьнешніх сувязях РПЦ і архімандрыт Аляксей Шынкевіч. Ксёндз Ігар Лашук, пробашч парафіі сьв. Яна Хрысьціцеля ў Менску, выказаў заўвагі, якія мае да законапраекту аб свабодзе веравызнаньняў Рыма-Каталіцкая Царква.





• *Раўбічы, 6-7.08.2002. Удзельнікі канферэнцыі «Рэлігія і дэмакратыя».*

Шмат пытаньняў і вострыя дыскусіі ўдзельнікаў канферэнцыі выклікаў даклад пра ўнесеныя зьмены і дапаўненьні ў закон аб свабодзе веравызнаньняў, з якім выступіў начальнік аддзелу па справах рэлігіяў Камітэту па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь сп.А.Калінаў. У сваім дакладзе ён настойваў на тым, што новы закон «адпавядае міжнароднаму заканадаўству» і шмат у чым «зьяўляецца прагрэсіўным». Сп.Калінаў настойваў, што закон адлюстроўвае рэлігійную сітуацыю ў Беларусі, дзе самай шматлікай зьяўляецца Расейская Праваслаўная Царква, але разам з тым ён «не ўшчамляе інтарэсы рэлігійных меншасьцяў». З такой ацэнкай закону, аднак, большасьць выступоўцаў не пагадзілася.

**Найбольшую крытыку ўдзельнікаў канферэнцыі выклікала прэамбула** Закону і нормы пра абавязковую рэгістрацыю рэлігійных супольнасьцяў, павелічэньне колькаснага складу заснавальнікаў да 20 чалавек, абмежаваньне дзейнасьці рэлігійных арганізацыяў паводле тэрытарыяльнага прынцыпу **(арт. 14)**, устанаўленьне часавага цэнзу пры рэгістрацыі рэлігійнага аб'яднаньня **(арт. 15)**, пазасудовы парадак прыпыненьня дзейнасьці рэлігійных арганізацыяў **(арт. 37)**, цэнзура распаўсюджваемай рэлігійнай літаратуры **(арт. 26)**, парадак стварэньня экспертнае рады ў рамках структуры выканаўчай улады **(арт. 11)** і інш.

На думку многіх выступоўцаў, у Законе ня ўлічаны традыцыі і ўнутраная структура Цэркваў **(арт. 13 і 15)**, у прыватнасьці місіянерства, як аснова дзейнасьці многіх Цэркваў, не ўрэгуляваны пытаньні маёмасных стасункаў дзяржавы і Царквы, у тым ліку пытаньні рэстытуцыі. Усе праваабаронцы (і беларускія, і расейскія), а таксама прадстаўнікі ўсіх Пратэстанцкіх Цэркваў, грэка-католікі і юдзеі лічаць новы закон непрымальным, паколькі ён парушае правы вернікаў, не гарантуе ім роўныя правы і правакуе міжканфесійную варожасьць у краіне.

Па многіх з гэтых пунктаў крытыкавалі законапраект рыма-католікі і мусульмане, але, як і праваслаўныя (яны выказалі новаму закону поўную падтрымку), у галасаваньні за рэзалюцыю з просьбай да дэпутатаў Савету Рэспублікі адхіліць законапраект і адправіць яго на дапрацоўку яны ўдзелу ня бралі... Гэтая іхняя пазіцыя была адлюстравана ў Выніковым дакуменце, прынятым астатнімі ўдзельнікамі канферэнцыі.

На канферэнцыі грэка-католікі прапанавалі стварыць у краіне Ўсебеларускую Раду Цэркваў і рэлігійных арганізацыяў, каб прадстаўнікі канфесіяў маглі стала сустракацца і разам абмяркоўваць надзённыя праблемы, распрацоўваць сумесныя сацыяльна-культурныя і інш. праекты. Ідэя ў цэлым была ўхвалена, аднак канкрэтны механізм яе рэалізацыі вырашана абмеркаваць дадаткова.

У выніку працы канферэнцыі быў прыняты Выніковы дакумент. У ім адзначаецца, што **Закон супярэчыць Канстытуцыі Беларусі і іншым заканадаўчым актам, міжнародным дамовам, якія падпісала наша краіна**, а таксама агульнапрынятым стандартам у галіне правоў чалавека. Практыка прымяненьня закону «можа прывесьці да шматлікіх судовых спрэчак, створыць пагрозу міжканфесійнаму паразуменьню і можа спрычыніцца да дэстабілізацыі грамадзянскай супольнасьці». Рабочая група канферэнцыі абагульніла таксама ўсе заўвагі да Закону «Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях» усіх яе удзельнікаў. Гэты тэкст прапануем увазе чытачоў.

# 26 пунктаў для Савету Рэспублікі

### Заўвагі да новага законапраекту «Аб унясеньні зьменаў і дапаўненьняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях»

*На міжнароднай канферэнцыі, якую ладзіла ГА «Цэнтр па правах чалавека» 6-7 жніўня 2002 году ў РСК «Раўбічы» была створана рабочая група для выпрацоўкі рэзалюцыі ў складзе: Г.Паганяйла (БХК), В.Парфяненка (БГКЦ), Д.Шаўцова (ЦПЕ), І.Канапацкі («Зікр уль Кітаб»), Г.Салаўёў (ХВЕ), А.Вялічка (Менскі тэалагічны інстытут), Л.Левінсон (Расейскі Інстытут правоў чалавека), кс. А.Тарасевіч (РКЦ).*

*Рабочая група атрымала прапановы ад прадстаўнікоў канфесіяў і, пасьля іх апрацоўкі, прапануе іх у пісьмовай форме наступным чынам:*

1. Юдзеі і грэка-католікі прапануюць выключыць з прэамбулы Закону пералік канфесіяў і іх вызначальную ролю, бо тое, што выкладзена ў Законе, парушае прынцып раўнапраўя канфесіяў пры стварэньні і дзейнасьці рэлігійных арганізацыяў на тэрыторыі Беларусі.
2. Закон ня ўлічвае асаблівасьцяў рэлігійных нацыянальных традыцыяў народаў, якія пражываюць у Беларусі (грэка-католікі, юдзеі, рыма-католікі).
3. У Законе адсутнічае прававое рэгуляваньне дзейнасьці незарэгістраваных органамі ўлады рэлігійных групаў, якія ўваходзяць у склад рэлігійных аб'яднаньняў альбо дзейнічаюць аўтаномна; належыць таксама выключыць адказнасьць за рэлігійную дзейнасьць без рэгістрацыі (грэка-католікі, юдзеі, Л.Левінсон).
4. Закон ня ўлічвае асаблівасьцяў структуры рэлігійных арганізацыяў, сьцьвярджаюць рыма-католікі.
5. У Законе адсутнічае прававы механізм фармаваньня і дзейнасьці Экспертнай рады, аспрэчваньня ейных рашэньняў, а таксама прызначэньня незалежнай рэлігіязнаўчай экспертызы (грэка-католікі, рыма-католікі, юдзеі).
6. Увесьці ў Экспертную раду прадстаўнікоў канфесіяў прапануюць грэка-католікі.
7. Увядзеньне Законам рэлігіязнаўчай экспертызы на выданьне, распаўсюджваньне і ўвоз рэлігійнай літаратуры азначае фактычнае ўстанаўленьне цэнзуры, што супярэчыць арт. 33 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (грэка-католікі, юдзеі).

Працяг на с.14 ⇨

Ян ЯРЦА (Варшава)

# Харызматычнае служэньне Апосталаў Славянаў у сьвятле стараславянскага пісьменства

## 2. ХАРЫЗМАТЫЧНАЯ ЛІНІЯ *

Раньнехрысьціянскія харызматычныя тытулы ды алегарычныя вобразы, якія акрэсьліваюць царкоўную «ўзьвелічальную годнасьць» Апосталаў Славянаў («Жыціе сьв. Мятода» *(далей — ЖМ)* II, 1), ня мелі непасрэдных асноваў у кананічнай і літургічнай практыцы Царквы ад апольстальскіх часоў. За выключэньнем Армянскай Царквы, дзе захаваліся сьвячаньні ў годнасьць настаўнікаў (*vardapet*), ва ўсім пазьнейшым хрысьціянстве не было служэньня апосталаў, настаўнікаў, пастыраў, прарокаў. Стараславянскае вяртаньне да гэтых катэгорыяў уражвае: нібы маладая славянская Царква ў пошуку сваёй тоеснасьці ў запале нованаверненых зьвярталася наўпрост да Спасланьня Сьвятога Духу. Поруч кананічнай апостальскай пераемнасьці сьв. Мятода ад апостала Андроніка праз «папу рымскага» ў стараславянскай літаратуры выразна вымалёўваецца лінія боганатхнёных (харызматычных) служэньняў, якая грунтуецца на перакананьні, што «Бог міласьцівы і шчодры [...] на ўсе вякі і часы не перастае абсыпаць нас разнастайнымі ласкамі, як ад пачатку, так і цяпер, праз патрыярхаў найперш і айцоў, потым праз прарокаў, а пасьля іх праз апосталаў і мучанікаў, мужоў справядлівых і вучоных, выбіраючы іх сярод тлуму жыцьця гэтага» («Жыціе сьв. Канстанціна-Кірылы» *(далей — ЖК)* I, 1).

Характэрна, што пералічэньне «папярэднікаў», паўтараецца шматразова. Сьв. Мятод пасьля сьмерці «далучыўся да айцоў сваіх, патрыярхаў, прарокаў, апосталаў, настаўнікаў і мучанікаў» (ЖМ XVII, 12). Такі самы пералік згадвае «Слова пахвальнае ў гонар сьвятых Кірылы і Мятода» *(далей — СПКМ)*: «І пасылаў гэтак прарокаў, па прароках — апосталаў, па апосталах — мучанікаў, мужоў справядлівых і настаўнікаў, як таксама сталася і ў гэтым нашым сёмым тысячагоддзі» (СПКМ I). Маем тут выразны генеалагічны працяг служэньня Настаўнікаў Славянаў.



«Жыціе Мятода» ў доўгай (складае траціну тэксту) прадмове да кароткага агіяграфічнага аповеду падае падрабязны імянны сьпіс ягоных папярэднікаў: Энох, Ной, Абрагам, Ісак, Якуб, Язэп з Ягіпту, Ёў, Майсей, Аарон, Самуіл, Давід, Саламон, Ільля, Елісей, Ян Хрысьціцель, «апосталы Пётр і Павел разам з іншымі вучнямі Хрыстовымі». Ужо пасьля іх ідуць мучанікі, «наступнікі сьвятых апосталаў», пáпы разам з Айцамі Сабораў. Увесь гэты генеалагічны шэраг упісаны тут у Божы план збаўленьня праз «пазнаньне і разуменьне Таго, які стварыў столькі ўсяго подзіву вартага» (пар. ЖМ I, 13-18 і 1). Гэты план узяты ў этапах Божага павучаньня, пачынаючы ад акту стварэньня праз падзеньне Адама да паступовага ўздыманьня чалавецтва праз «абраных мужоў» «на кожны час і перыяд». У сьвятле абодвух «Жыціяў» у Божым плане збаўленьня асаблівае значэньне мае «зразуменьне праўды». Гэтак славянскія агіёграфы імкнуцца разумець Паўлаву ідэю паклiканьня ўсіх да збаўленьня: «каб усе былі збаўлены і дайшлі да зразуменьня праўды» (пар. 1 Цім 2, 4). Неабходнасьць «зразуменьня праўды» падкрэсьлена пры пераліку шэрагу прадвесьнікаў на пачатку абодвух «Жыціяў». Нават акт стварэньня ў разуменьні «Жыція Мятода» вымалёўваецца ў пазнавальным асьпекце: «Бог ласкавы і ўсемагутны, які з нябыту паклікаў да быцьця ўсё [...], і калі над гэтым хтосьці дакладна паразважае, то можа праз пашану спазнаць і зразумець Таго, які стварыў столькі ўсяго годнага подзіву. Таму як, разважаючы над веліччу і цудоўнасьцю справаў, магчыма розумам спасьцігнуць і іх Творцу» (ЖМ I, 1-2). Створаны Ім чалавек атрымаў «разуменьне словаў і ўладу над сабою, каб увайсьці ў рай» (ЖМ I, 8). Іменны шэраг папярэднікаў сьв. Мятода — перададзены найбольш дакладна ў творы «43 Словы» сьв. Рыгора з Назіянзіну ў гонар Васіля, біскупа Цэзарэі Кападакійскай» — у адрозьненьні ад тэксту сьв. Рыгора ўзяты ў пазнавальнай, павучальнай функцыі:

> *«Абрагам, калі пасьля разьдзяленьня народаў усе ў граху знаходзіліся, Бога пазнаў. [...] Якуб [...] бачыў лесьвіцу з зямлі ў неба [...], а ў благаславеньні сыноў сваіх Хрыста прадказваў. [...] Майсей [...] пасьля размовы з Богам [...] даў народу Закон рукою Божаю пісаны. [...] Давід навучыў [народ] песьням Божым. [...] Пасьля іх Ян, вялікі пасярэднік паміж Старым і Новым Законам, стаўся [...] настаўнікам жывых і мёртвых. Сьвятыя апосталы Пётр і Павел разам з іншымі вучнямі Хрыстовымі як маланка ўвесь сьвет прайшлі ды зямлю асьвяцілі» (ЖМ I, 16-31).*

Эвалюцыйны характар гэтага павучаньня Божага падкрэсьлівае тут выраз, які гаворыць пра пасланьніцтва «кожнага ў сваім часе». Тыя абраныя Богам мужы былі прыладамі Духа Сьвятога.

Даробак Настаўнікаў Славянаў разумеецца на раўне са справамі тых папярэднікаў. «Жыціе Мятода» сьцьвярджае:

> *«Пасьля іх жа ўсіх Бог міласэрны, які прагне, каб кожны чалавек быў збаўлены і дайшоў да разуменьня праўды, узвысіў да знакамітай годнасьці за часы нашыя і для народу нашага [...] настаўніка нашага благаслаўлёнага Мятода, слаўных дзеяў якога і здабыткаў не пасаромеемся параўнаць з тымі, Богу мілымі мужамі. Таму як адным быў ён роўны, ад іншых мала ў чым меншы, а ад іншых — большы [...]. Да ўсіх падобны, усе ўласьцівасьці ў сабе праявіў» (ЖМ II, 1-3).*

Пасьля пералічэньня катэгорыяў папярэднікаў сьв. Кірылы (патрыярхаў, прарокаў, апосталаў, мучанікаў, мужоў справядлівых і вучоных) «Жыціе Канстанціна» сьцьвярджае, што Бог «учыніў гэта таксама для роду нашага, паклікаўшы для нас настаўніка таго, які асьвяціў люд наш» (ЖК I, 3).

У гэты спосаб славянскія агіёграфы імкнуцца давесьці, што сьвятыя Настаўнікі Славянаў зьяўляюцца асаблівымі выбранцамі і пасланцамі Божымі і што яны ланцужок у неперарыўнасьці пасланьніцтва Божага да людзей. «Наш век», «нашае сёмае тысячагоддзе», «дні нашыя» складаюць нібы новы, асобны этап у Божым павучаньні, прызначаны для «працаўнікоў апошняй гадзіны» (пар. Мц 20, 1 і далей).

У «Слове пахвальным у гонар сьвятых Кірылы і Мятода» славяне параўноўваюцца з наёмнымі працаўнікамі вінаградніку, якія нанятыя «аб адзінаццатай гадзіне»: «І цяпер, у тыя часы апошнія, на ўзор тых нанятых працаўнікоў з вінаградніку, што зносілі цяжар цэлага дня сьпякоты, а атрымалі роўную заплату з нанятымі аб адзінаццатай гадзіне, Ласка

* *Працяг, пачатак у № 2 (33), 2002. Зьвяртаем таксама ўвагу нашых чытачоў на тое, што ў мінулым нумары «Царквы» прозьвішча аўтара артыкулу Яна Ярца (Jan Jarco) па-беларуску было пададзена няправільна. Рэдакцыя прыносіць прабачэньне за недакладнасьць.*

# «Калі маем такіх заступнікаў – не прападзем!»

Лета стала для Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы часам асаблівае актыўнасьці. У першыя чатыры дні ліпеня прадстаўнікі ўсіх япархіяў і экзархіяў УГКЦ зьехаліся на Патрыяршы Сабор, які праходзіў у Львоўскай Духоўнай семінарыі Сьвятога Духа. З 7 па 12 ліпеня ў Кіеве праходзіў Сінод біскупаў УГКЦ, які сабраў 28 грэка-каталіцкіх біскупаў і 2 мітрапаліты з усяго сьвету на чале з Кардыналам Любамірам Гузарам, Зьверхнікам УГКЦ. Завяршыўся Сінод дзьвюма ўрачыстымі пілігрымкамі: у с. Заздрасьць, дзе нарадзіўся мужны вызнаўца веры Патрыярх Ёсыф Сьліпы, 110-годдзе з дня народзінаў якога адзначаецца сёлета, і ў Зарваніцу, дзе знаходзіцца адна з найбольш шанаваных украінскіх іконаў Маці Божай.

А 29 чэрвеня Львоў стаў сьведкам гістарычнае падзеі — УГКЦ стала першаю сярод іншых Усходніх Цэркваў Рымскага сумоўя, якая дабілася стварэньня першага на постсавецкай прасторы каталіцкага ўніверсітэту. Наваствораны ўніверсітэт сьвятога Клімента, Папы Рымскага, паўстаў на базе Львоўскай Багаслоўскай Акадэміі.

Нельга не згадаць таксама яшчэ адну вельмі важную падзею, якая прыцягнула ўвагу ня толькі галічанаў, але й прадстаўнікоў усяго хрысьціянскага сьвету — перанясеньне мошчаў блаславёнага сьвятамучаніка біскупа Мікалая Чарнецкага, які перанёс вялікія цярпеньні падчас перыяду забароны і перасьледу Грэка-Каталіцкай Царквы. Разам з шэрагам сваіх братоў па веры ён быў узнагароджаны ўрачыстай беатыфікацыяй падчас мінулагодняга візіту Сьвятога Айца Яна Паўла II ва Украіну. Магіла біскупа Мікалая Чарнецкага даўно прыцягвала мноства вернікаў, праз заступніцтва мучаніка вернікі атрымлівалі ацаленьні. Перанясеньню мошчаў папярэднічала эксгумацыя 20 чэрвеня, якую праводзяць згодна з царкоўным правам пасьля абвяшчэньня асобы блаславёнай або сьвятой, каб атрымаць доказы аўтэнтычнасьці гэтых мошчаў. Трэба адзначыць, што Царква заўсёды навучала, што верыць ня ў сілу саміх парэштак, а ў малітоўнае заступніцтва перад Богам сьвятых, якія некалі насілі гэтыя целы. Першыя хрысьціяне адпраўлялі свае Літургіі на мошчах мучанікаў. І сёньня Літургія ёсьць дзейснаю толькі тады, калі яна правіцца на антымінсе, у якім заўсёды захоўваецца часьцінка мошчаў сьвятых.

Урачыстасьці распачаліся 4 ліпеня 2002 году перанясеньнем рэліквіяў блаславёнага Мікалая (Чарнецкага) з Лічакіўскага цьвінтара ў царкву айцоў Рэдэмптарыстаў, да якіх належаў і сам сьвятамучанік. У шматкіламетровай працэсіі, якая некалькі гадзінаў ішла па вуліцах Львова, бралі ўдзел 50 тысячаў вернікаў. Многія з іх сталі актыўнымі ўдзельнікамі начнога чуваньня перад дамавінаю са сьвятымі рэліквіямі навамучаніка.

На наступны дзень, 5 ліпеня, у царкве сьв. Язафата адбылася велічная Архірэйская Літургія, якую разам з біскупамі УГКЦ, прадстаўнікамі ўсіх манаскіх законаў і згуртаваньняў ды з духавенствам з розных куткоў Украіны і сьвету адслужыў Любамір Кардынал Гузар. У сваёй сьвяточнай прамове Зьверхнік УГКЦ адзначыў, што для ўсіх нас мучаніцкае сьведчаньне вернасьці Хрысту, якое даваў на працягу свайго жыцьця сьвяты навамучанік Мікалай, «зьяўляецца бясцэнным скарбам, бо, калі маем такіх заступнікаў, можам мець пэўнасьць, што не прападзем». Аднак трэба памятаць таксама і пра тое, што «кожны з нас пакліканы да сьвятасьці і можа быць заступнікам за сваіх бліжніх перад Усемагутным Творцам».

Пасьля набажэнства й падзячнага слова протаігумена айцоў Рэдэмптарыстаў быў адкрыты доступ да сьвятых рэліквіяў. На працягу шасьці дзён ля рэліквіяў мучаніка за веру ў царкве сьв. Язафата адбываліся бесьперапынныя маленьні і набажэнствы. 11 ліпеня алтар са сьвятымі рэліквіямі блаславёнага сьвятамучаніка Мікалая Чарнецкага быў запячатаны і, згодна з рашэньнем Ўладыкі Любаміра Гузара, тут яны будуць спачываць аж да таго часу, пакуль у Львове ня будзе ўзьведзена асобная царква ў гонар гэтага сьвятога.

*Для беларускіх каталікоў, асабліва на Палесьсі, асоба біскупа Мікалая Чарнецкага добра вядомая і вельмі блізкая. У міжваенны час ён быў Апостальскім візітатарам каталіцкіх парафіяў славяна-візантыйскага абраду на Валыні, Падлясьсі і Палесьсі. Ён неаднойчы служыў сьв. Літургію і гаварыў пранікнёныя казаньні ў Пінску, Альбярціне, Бабровічах, Альпені, Целяханах, Тараканi, Янаве і інш. мясцовасьцях*

## ПАТРЫЯРХ КОПТАЎ-КАТОЛІКАЎ НАВЕДАЎ СВАЮ ПАСТВУ Ў АМЕРЫЦЫ І ЕЎРОПЕ

***Напрыканцы жніўня 2002 г. завершыўся пастырскі візіт Патрыярха Копцка-Каталіцкай Александрыйскай Царквы Стэфанаса II Гаттаса, якога летась Ян Павел II узьвёў у годнасьць кардынала, у Амерыку і Еўропу, дзе ён наведаў прыходы коптаў-католікаў.***

Па завяршэньні візіту ў інтэрвью французскай каталіцкай газеце *«La Croix»* Патрыярх адзначыў плённасьць сваіх сустрэчаў з замежнай паствай, якая складае каля 50 тысячаў вернікаў. Паводле словаў Стэфанаса II, копты — хрысьціяне, што жывуць у Ягіпце,— сёньня раскіданы па ўсім сьвеце. Паводле апошніх дасьледаваньняў, коптаў-праваслаўных налічваецца больш за 7 мільёнаў чалавек, а коптаў-католікаў — 250 тысячаў. Большая частка вернікаў гэтай Усходняй Каталіцкай Царквы (200 тысячаў) жыве ў Ягіпце. Там існуе 6 копцка-каталіцкіх япархіяў, міжепархіяльная духоўная семінарыя, дзе навучаецца каля шасьці дзясяткаў семінарыстаў. Акрамя таго, Копцка-Каталіцкі Патрыярхат каардынуе ў Ягіпце 160 агульнаадукацыйных школаў, якія наведваюць як хрысьціяне, так і мусульмане.

У сваім інтэрвію газеце *«La Croix»* Патрыярх Копцка-Каталіцкай Александрыйскай Царквы Стэфанас II Гаттас асабліва адзначыў, што ў апошнія гады стасункі паміж мусульманамі і хрысьціянамі сталі добрасуседзкія. Хоць у першай палове 50-ых гадоў мінулага стагоддзя пры дыктатарскім рэжыме Насэра частка хрысьціянаў палічыла за лепшае эміграваць.

## Адраджэньне забытых традыцыяў у Італіі

***На поўдні Італіі адраджаецца старажытная традыцыя шанаваньня Нерукатворнай іконы Божай Маці і сьпевы акафістаў.***

У невялікім гарадку Расана, што ў Калабрыі, увесь жнівень прысьвечаны Багамаці. 15 жніўня тут асаблівым чынам ушаноўваецца Нерукатворная ікона Божай Маці. У гэты дзень вернікі сьпяваюць акафіст (хвалебны сьпеў Усходняй Царквы), напісаны ў 7 ст. з нагоды выбаўленьня Багародзіцай Канстанцінопаля ад нашэсьця персаў і авараў.

У Расана яшчэ да 1462 году захоўваўся візантыйскі абрад. Таму, паводле словаў генеральнага вікарыя і дырэктара рэгіянальнага бюро царкоўнай маёмасьці мансеньёра Луіджы Рэнца, ушанаваньне Нерукатворнага вобразу Багародзіцы і сьпяваньне акафісту зьяўляецца аднаўленьнем даўняе традыцыі і мае, да таго ж, несумненна, экуменічны характар.

Божая пажадала на тое самае апостальскае пасланьніцтва прызначыць і тых двух новых вестуноў як сьветачаў для цэлае зямлі» (СПКМ VII).

Боганатхнёнае служэньне Апосталаў Славянаў зьяўляецца роўным справе іх папярэднікаў. Грэцкі тэкст «Жыціе сьв. Клімента Славянскага» бароніць ідэнтычнасьць гэтай боганатхнёнасьці:

> *«Многія мяркуюць, што нашыя часы ня маюць у сабе нічога з таго, што было ў старажытнасьці. [...] Аднак сутнасьць прыроды ёсьць тая самая і не зьмянілася, а Госпад пакінуў для сябе таксама і ў нашых часах вельмі шмат людзей, якія [...] зазьзялі сьвятлом свайго жыцьця на славу Айца Нябеснага, стаўшыся сьветачамі ў сьвеце, што трымаюць слова жыцьця. Гэтаксама й край балгарскі асьвяцілі ў тыя апошнія часы блаславёныя айцы і настаўнікі, якія зазьзялі навукаю і цудамі ды сталіся моцныя перад Богам жыцьцём і Словам».*

У гэтай харызматычнай лініі пасланцоў Божых зьвяртае ўвагу адсутнасьць разьмяжоўваньня мужоў Старога і Новага Запавету, часоў апостальскіх і вялікіх усяленскіх sабораў, нібы неперарыўнасьць настаўніцтва азначала працяг Аб'яўленьня. Бо «прырода рэчаў ёсьць тая самая і не зьмянілася» — сьцьвярджае Тэафілакт у абароне боганатхнёнасьці сьвятых Настаўнікаў Славянаў. Гэта вынікае як з раўназначнага трактаваньня Старога і Новага Запавету ва ўсходняй Царкве, так і з жывой пераканананасьці пра сталую прысутнасьць Духа Сьвятога ў Царкве. Сьвятыя Кірыла і Мятод у гэтай традыцыі зьяўляюцца «абранымі прыкладамі Духа Сьвятога». Іх справа выяўляецца як новае сьвята Тройцы.

*Пераклад з польскай І.Бараноўскага*

*(Працяг будзе)*

*Друкуецца паводле:* Jan Jarco. Charyzmatyczna posługa Apostołów Słowian w świetle piśmiennictwa starosłowiańskiego. // Cyryl i Metody apostołowie i nauczyciele słowian. RW KUL, Lublin. 1991.— T.6. Cz.1. S. 105-120.

*Прапануем чытачам «Царквы» ўрывак з новага разьдзелу кнігі **а. Віктара ДАНІЛАВА «МОЙ ШЛЯХ ДА БОГА І ДА КАТАЛІЦКАЙ ЦАРКВЫ»**. Гэты разьдзел а. Віктар Даніла ў напісаў сьпецыяльна для беларускага выданьня сваёй кнігі (у расейскім варыянце яго няма). У прапанаваным урыўку з новага разьдзелу аўтар апавядае пра сваю рэлігійную дзейнасьць у часы рэлігійнага перасьледу з моманту, калі ён пераехаў жыць у Беларусь.*



а. Віктар ДАНІЛАЎ

# Мая місіянерская дзейнасьць ў падпольлі і ў гады «перабудовы»

Памяць пра шматлікія ласкі Божыя, пра якія я пісаў у гэтай кнізе, не давалі мне спакою, і я працягваў ва ўмовах заканадаўчых абмежаваньняў на рэлігійную дзейнасьць займацца хрысьціянскай асьветай сярод людзей. Я стварыў гурток па вывучэньні рэлігіі з 7 чалавек. Мы сябравалі, даставалі рэлігійную літаратуру, чыталі і абмяркоўвалі яе. У працэсе такога сумоўя я імкнуўся абудзіць у людзей цікавасьць да каталіцтва. Аднак у гурток трапіў сакрэтны супрацоўнік КГБ, студэнт медыцынскага інстытуту. Над намі пачалася аператыўная работа КГБ. Частка людзей, ня маючы досьведу ў стасунках з КГБ, як кажуць, «раскалолася» і дала на мяне паказаньні як на арганізатара. Сакрэтны супрацоўнік КГБ раскаяўся і папярэдзіў мяне аб сваёй здрадзе. Мяне выклікалі на допыты ў КГБ. Цягнуліся яны па некалькі гадзінаў. Па прычыне маёй адмовы раскаяцца і даць патрэбныя паказаньні органы КГБ арганізавалі цкаваньне мяне. Спачатку — правядзеньнем лекцыяў пра маю «дзейнасьць» па месцы працы, а затым і ў іншых буйных вытворчых калектывах Яраслаўля. У выніку я быў пазбаўлены характарыстыкі для працы над абаронай кандыдацкай дысертацыі, падвышэньня заробку і друкаваньня маёй навуковай працы ў часопісе міністэрства. Матывацыя была ў тым, што нельга падвышаць мой навуковы аўтарытэт і што званьне савецкага вучонага не сумяшчальнае з рэлігійнымі перакананьнямі.

А ў мяне ж была ўжо сям'я, і мне трэба было яе матэрыяльна забясьпечваць. Аднак цяпер у сваім родным горадзе я быў «белай варонай». У выніку цкаваньня з боку КГБ я ня меў нармальнай магчымасьці працаваць па сваёй сьпецыяльнасьці ды матэрыяльна забясьпечваць сям'ю. І тады я наважыўся пераехаць жыць у каталіцкі раён СССР — у Заходнюю Беларусь, у Горадню. Я меў надзею, што там на мяне КГБ будзе менш зьвяртаць увагі. Скарыстаўшы рэкамендацыю ксяндза Станіслава Лазара — берасьцейскага сьвятара, з якім я разам адбываў заключэньне, я пазнаёміўся з гарадзенскім каталіцкім духавенствам і пераехаў у 1967 г. у Горадню. Там я ўладкаваўся інжынерам-эканамістам і пачаў паціху прапаведаваць каталіцтва.

Прыкладна ў той самы час я наладзіў кантакты са студэнтам праваслаўнай духоўнай Акадэміі — Дзьмітрыем Дудко, які жыў у Маскве. З ім мы некалі разам сядзелі ў адным камуністычным канцлагеры. Ён быў чалавек глыбока рэлігійны, а да таго ж яшчэ і паэт; таксама, як і я, ён меў дзьве палітычныя судзімасьці. Пазьней ён стаў праваслаўным сьвятаром і працаваў спачатку ў Маскве, а затым у Падмаскоўі. Мы часта гутарылі з ім на рэлігійныя тэмы, і аднойчы ён мяне пазнаёміў з праваслаўным сьвятаром Глебам Якуніным, які быў пазбаўлены права служыць у царкве за яго ны пратэст супраць антыхрысьціянскіх паводзінаў Маскоўскай патрыярхіі. Айцец Г.Якунін у той час быў беспрацоўны і жыў на ахвяраваньні вернікаў. Ён падараваў мне кнігу расейскага філосафа грэка-католіка Ўладзіміра Салаўёва «Расея і Ўсяленская Царква». [...]

Часта мы гаварылі з Дзьмітрыем Дудко пра каталіцтва, і аднойчы ён мне сказаў, што я яму надакучыў з гэтай тэмай, і параіў мне пазнаёміцца з праваслаўным сьвятаром Аляксандрам Менем, які, паводле словаў Д.Дудко, у душы — католік. Ён даў мне пісьмовую рэкамендацыю да айца Меня. І я паехаў да яго дадому — у Падмаскоўе.[...]

Ён пазнаёміў мяне са сваімі галоўнымі супрацоўнікамі па рэлігійнай працы і сам-насам прызнаўся, што ён тайны католік і мае ліст ад кіраўніцтва Каталіцкай Царквы на працяг працы праваслаўным сьвятаром. Ён быў, мабыць, самы актыўны і прадуктыўны праваслаўны сьвятар. Вядомы ён ня толькі сваімі папулярнымі кнігамі па хрысьціянстве. Ён і ягоныя людзі былі першымі арганізатарамі ў Маскве рэлігійнага самвыдату на друкарскіх машынках. Ягоныя людзі ўступалі ў кантакты з каталіцкімі манахамі-навукоўцамі, якія прыязджалі ў Маскву на навуковыя канферэнцыі і прывозілі з-за мяжы рэлігійную літаратуру для людзей з кола А.Меня. Менавіта а.Аляксандр Мень разам са сваімі вернікамі першы стварыў у Маскве моладзевыя гурткі для рэлігійнай асьветы. На іх а. А.Мень прадстаўляў мяне моладзі як расейскага католіка, што ў той час было як нейкае дзіва. Я быў сьведкам таго, як ён неаднойчы раіў сваім духоўным дзецям прымаць прычасьце ў каталіцкіх храмах, маліцца там. З гэтага вынікае, што ён прапаведаваў актыўнае экуменічнае сумоўе праваслаўных з католікамі. Часам мне даводзілася весьці рэлігійныя прасьветніцкія гутаркі з «менеўцамі». На маё пытаньне, колькі а. Мень навярнуў у праваслаўе людзей, ён мне адказаў, што з 1960 г. па 1980 г. асабіста ён хрысьціў каля 8 тысячаў чалавек, а потым перастаў весьці ўлік. [...]

Мае сяброўскія стасункі з Менем працягваліся колькі гадоў, але былі азмрочаныя двума непрыемнымі выпадкамі. Двойчы ягоныя вернікі выдалі мяне ў маёй рэлігійнай дзейнасьці. Наступствам гэтага быліператрусы ў мяне.

Першы ператрус быў у 1970 г.: шукалі ў мяне нелегальны часопіс «Хроника текущих событий». У гэтым часопісе друкаваліся выпадкі парушэньня правоў чалавека ў СССР, у тым ліку і за рэлігійныя перакананьні. Пры вобыску ў мяне было канфіскавана шмат рэлігійнай літаратуры, пераважна брусельскага выдавецтва «Жизнь с Богом» і антымарксісцкая літаратура дарэвалюцыйнага выданьня (Бярдзяеў, Булгакаў і інш.). На працягу цэлага году мяне выклікалі на допыты ў КГБ, абвінавачвалі ў захоўваньні часопісу «Хроника текущих событий» і перадачы ў яго інфармацыі пра паршэньні правоў вернікаў. Але я пасьпяхова здолеў адхіліць гэтыя абвінавачваньні. Тады КГБ паспрабавала надаць маёй асьветніцкай дзейнасьці па распаўсюджваньні каталіцтва ў Горадні крымінальны характар. Некаторыя з маіх вучняў пад націскам КГБ выдалі мяне, але затое ў далейшым пачуцьцё віны паскорыла іхняе навяртаньне ў каталіцтва, і яны сталі перакананымі католікамі. КГБ у прысутнасьці пракурора і прадстаўніка Гарадзенскага абкама КПСС запатрабавала ад мяне падпіскі з абяцаньнем не займацца рэлігійнай асьветай людзей. Я адмовіўся даць такое абяцаньне, матывуючы сваю адмову адсутнасьцю забароны на гэта ў Канстытуцыі.

Другі раз мяне выдалі ў 1984 г. На гэты раз ператрус і сьледзтва па справе вялося пракуратурай. Чалавек з прыхаджанаў а. Меня, якога арыштавалі ў Маскве, даў паказаньні, што ён мне прадаў кнігі рэлігійнага самвыдату. Падчас ператрусу ў мяне знайшлі некаторыя з названых ім кніг, але я патлумачыў, што кнігі мною атрыманы ад іншага чалавека, імя якога я ня памятаю. Пасьля двух выпадкаў здрадніцтва з боку людзей а. Аляксандра Меня я спыніў кантакты з ягонымі людзьмі і з ім.

Падчас ператрусаў КГБ асабліва імкнулася знайсьці адрасы людзей, з якімі я кантактаваў, аднак я, ведаючы гэты іхні інтэрас, заўсёды трымаў адрасы знаёмых у недасягальным для КГБ месцы і ніколі не запаміна ў прозьвішчаў сваіх знаёмых. А КГБ гаварыў, што сьпецыяльна не цікавіўся імёнамі і прозьвішчамі людзей, бо ведаў, што яны мяне пра іх запытаюць. З гэтае прычыны сёньня я ня памятаю прозьвішчаў і імёнаў большасьці людзей, з якімі я меў кантакты ў гады камуністычнага тэрору. Усё назіраньне з боку КГБ за паднаглядным вялося, як правіла, па месцы іх працы або па месцы жыхарства. Таму ў такіх месцах каталіцтва я ніколі не прапаведаваў.

*(Працяг у наступным нумары)*

## Супольнасьць Sant'Egidio

***Супольнасьць Sant'Egidio*** *паўстала ў Рыме ў 1968 годзе, пасьля Другога Ватыканскага Сабору. Сёньня гэта рух сьвецкіх, у якім бярэ ўдзел больш за 40 тысячаў чалавек. Усе гэтыя людзі займаюцца евангелізацыяй і справамі міласэрнасьці ў Рыме, іншых гарадах Італіі ды больш як 60 краінах на розных кантынентах.*

*Супольнасьць Sant'Egidio — гэта «грамадзкая царкоўная асацыяцыя сьвецкіх». Раскіданыя па сьвеце мясцовыя супольнасьці маюць адзіную духоўнасьць і асноўныя характарыстыкі шляху Sant'Egidio:*

***Малітва****, якая спадарожнічае жыцьцю ўсіх супольнасьцяў у Рыме і ў сьвеце ды складае цэнтр, сутнасьць супольнага жыцьця.*

***Абвяшчэньне Евангельля****, сэрца жыцьця Супольнасьці, распаўсюджваецца на ўсіх тых, хто шукае сэнсу жыцьця.*

***Салідарнасьць*** *з беднымі, дабраахвотная і бескарысьлівая служба ў евангельскім духу Царквы, «якая належыць усім, асабліва бедным» (Папа Ян XXIII).*

***Экуменізм****, якім Супольнасьць жыве ў сяброўстве, малітве ды пошуках адзінства хрысьціянаў усяго сьвету.*

***Дыялог****, на які зьвяртае ўвагу Другі Ватыканскі Сабор, прысутны на шляху міру і супрацоўніцтва паміж рэлігіямі, а таксама як спосаб жыцьця і метад вырашэньня розных канфліктаў.*

*Цэнтрам Супольнасьці зьяўляецца рымская царква Sant'Egidio — сьвятога Эгідыя, і менавіта адсюль бярэцца назва Супольнасьці. Ад самага пачатку ў раёне Трасьцевэрэ і ў Рыме Супольнасьць жыве штодзённай малітвай, прымае бедных ды пілігрымаў.*

# ВАТЫКАН УХВАЛІЎ СТАТУТ РУХУ «НЕАКАТЭХУМЕНАЛЬНЫ ШЛЯХ»

***Напрыканцы чэрвеня 2002 году Ватыкан абвясьціў пра ўхваленьне Статуту «Неакатэхуменальнага шляху» — руху за духоўнае абнаўленьне, які быў заснаваны ў сярэдзіне 60-ых гадоў.***

Указ аб ухваленьні Статуту быў падпісаны 28 чэрвеня 2002 году ў штаб-кватэры Папскай Рады па справах сьвецкіх. У лісьце, які адрасаваны Прэфекту Папскай Рады па справах сьвецкіх кардыналу Стафарду 5 красавіка 2001 году, Папа Ян Павел II пацьвердзіў, што Рада па справах сьвецкіх мае паўнамоцтвы ўхваліць Статут «Неакатэхуменальнага шляху». На ўсебаковае вывучэньне дзейнасьці руху і ягонага Статуту Ватыкану спатрэбілася пяць гадоў. У цырымоніі падпісаньня указу, якую ўзначальваў кардынал Джэймс Фрэнсіс Стафард, бралі ўдзел заснавальнікі руху Кіко Аргуэла, Кармэн Хэрнандэз і а. Марыё Пэзьзі.

У заяве з гэтай нагоды Папскай Рады па справах сьвецкіх адзначаецца, што «для Царквы гэты крок зьяўляецца падзеяй вялікай важнасьці, бо «Неакатэхуменальны шлях», які паўстаў у 1964 годзе ў Гішпаніі, сёньня пашырыўся ў больш як ста краінах сьвету».

«У духу абнаўленьня, якое распачаў II Ватыканскі Сабор, «Неакатэхуменальны шлях» стаў служыць епархіяльным біскупам і парафіяльным сьвятарам. Гэта быў шлях да нова- га адкрыцьця Тайны хросту. Ён дазволіў у далейшым умацаваць веру»,— адзначаецца ў дакуменце. Неакатэхуменат спаўняе сваю місію, прапануючы вернікам, «якія прагнуць адрадзіць багацьце хрысьціянскага пасьвячэньня ў сваім жыцьці», зрабіць гэта з дапамогаю катэхізісу і навяртаньня. Больш за тое, «Неакатэхуменальны шлях» — гэта спосаб для хрысьціянскага пасьвячэньня дарослых, якія рыхтуюцца прыняць хрост.

Падчас вывучэньня дзейнасьці руху Рада па справах сьвецкіх шчыльна кантактавала з асобнымі біскупамі і канферэнцыямі біскупаў ва ўсім сьвеце, каб «даць ацэнку дзейнасьці Шляху ў парафіях, епархіях і ў цэлым на нацыянальным узроўні». «Шмат якія патрыярхі, кардыналы, біскупы прасілі Сьвятога Айца пра неабходнасьць садзейнічаць для праверкі і ўхваленьня Статуту гэтага руху»,— адзначаецца ў дакуменце. «Ухвалены сёньня нарматыўны акт мае на мэце рэгуляваньне дзейнасьці «Неакатэхуменальнага шляху» і ягонае гарманічнае інтэграваньне ў супольнасьць розных царкоўных рухаў, а таксама прапануе сваю дапамогу душпастырам Царквы ў іх бацькоўскай і няспыннай падтрымцы неакатэхуменальных супольнасьцяў»,— гаворыцца ў дакуменце папскай Рады.

*Сёньня Рух «Неакатэхуменальны шлях» атрымаў сваё распаўсюджаньне ў 105 краінах сьвету. Ён складаецца з 1500 суполак у 800 епархіях і 5000 парафіях. «Неакатэхуменальны шлях» заснаваў каля 40 епархіяльных семінарыяў, якія цяпер знаходзяцца пад ягоным патранажам.*

# ХРЫСТОС быў на нашым вясельлі ў Кане!

***З 7 па 13 ліпеня 2002 году Супольнасць «Chemin Neuf» («Новая Дарога») ладзіла чарговую сесію «Кана» для сужонкаў. Гэтым разам у сесіі бралі ўдзел 45 сем'яў з Польшчы, Беларусі і Расеі. Сем'ям, якія належаць да розных хрысьціянскіх канфесіяў, Бог даў шанец яшчэ раз перажыць сваё сумеснае жыцьцё, азірнуцца, асэнсаваць і ўзважыць набыткі, пакаяцца ў грахах, дараваць адзін аднаму памылкі, як першы раз прызнацца ў каханьні...***

Супольнасць «Chemin Neuf», якая мае добрую славу ўжо ў больш чым 35 краінах сьвету, апошнім часам зьбірае ўсё больш прыхільнікаў і ў Беларусі. Ці можа быць інакш, калі гэтая Супольнасць служыць Усяленскай Царкве і еднасьці хрысьціянаў?

З Беларусі на сесію «Кана», якая праходзіла ў невялікім мястэчку Вэсола, што пад Варшавай, прыехалі 14 сем'яў, многія былі разам з дзецьмі. Удзел такой немалой групы беларусаў стаў магчымы, дзякуючы падтрымцы кіраўніцтва БГКЦ, а таксама сям'і а. Ігара і Вольгі Кандрацьевых, якія, перажыўшы сесію «Каны» год таму, маліліся на працягу году ў інтэнцыі беларускіх сем'яў, каб і яны маглі патрапіць у Вэсолу.

Галоўная мэта сесіі «Кана» — аб'яднаяньне сям'і праз Хрыста. Ці магчыма словамі ацаніць тое, што дае нам Госпад? Бо несумненна, што пасьля гэтай сесіі Хрыстос пасяліўся ў нашых сем'ях і як самы лепшы й добры Настаўнік увесь час навучае нас цярплівасьці, цьвярозасьці, надзейнасьці, любові...

Ня важна, які «стаж» сужэнства мела сям'я,— год, пяць, дваццаць пяць ці болей — кожная пара ў прысутнасьці Госпада закончыла сесію словамі вернасьці адзін аднаму, выказала жаданьне быць разам і ў шчасьці, і ў горы да апошніх дзён жыцьця. Сужонкі, што адзначылі такое цудоўнае вясельле, напэўна, ніколі не забудуць тыя словы каханьня, якія гучалі пад чароўны паланэз Агінскага...

Дзеці сужонкаў таксама былі паўнапраўнымі ўдзельнікамі сесіі «Кана». Але яны ўвесь час заставаліся пад апекай аніматараў і мелі сваю духоўную праграму, дастасаваныя да іх узросту гульні, забавы і адпачынак.

Незабыўным моцным перажываньнем і цудоўным досьведам еднасьці хрысьціянаў стала для многіх вернікаў магчымасьць прыняць Хрыста падчас беларуска-візантыйскай сьв. Літургіі, якую адслужыў для ўсіх удзельнікаў сесіі а. Ігар Кандрацьеў з Берасьця.

Удзельнічаць у сесіі «Кана» сужонкі могуць толькі раз у жыцьці. Аднак можна далучыцца да Брацтва (Фратэрні) «Кана», задача якога — служэньне еднасьці сям'і, Царквы і грамадзтва. Сёлета ў Вэсолай фратэрня абслугі складалася са 150 асобаў, г. зн. з сем'яў, якія ўжо перажылі сваю «Кану», а таксама з 10 сьвятароў. Брацтва «Кана» зьяўляецца рухам у Царкве і ёсьць часткай Супольнасьці «Chemin Neuf». Паўстала яно менавіта ў выніку сесіяў «Кана». Сужонкі-ўдзельнікі Брацтва праз малітву, сьведчаньне сужонскага жыцьця і заангажаваньне ў жыцьцё Царквы працуюць для будаваньня братэрскіх сувязяў і ў служэньні тым, хто прыязджае на сесію «Кана» ўпершыню.

**Ірына і Юры Лаўроўскія**
*г.Берасьце*

# Адпачынак са Сьвятым Духам

*Умяне было шмат варыянтаў, куды паехаць напрыканцы лета адпачываць. Сябры даўно прапаноўвалі пайсьці разам у пілігрымку, бабулька ад самага пачатку лета ўвесь час запрашала мяне ў вёску, была таксама прапанова паехаць на мора. Але мне не давалі спакою радкі з запрашэньня паехаць на «адпачынак са Сьвятым Духам». Ці ж магла я ўрэшце адмовіцца, калі адчула, што сам Бог запрашае мяне?*

*Сапраўды, сам Бог прывёў мяне ў Івацэвічы. Бо сама я нічога не рабіла, нічога не вырашала, нават ня ведала, чаго я ўвогуле хачу. Гэта ўсё так дзіўна — я ж заўсёды ведала, куды іду і што мне патрэбна... І вось раптам я ня ведаю, куды мяне нясе, што там будзе, што там буду рабіць, ці спадабаецца мне.*

*На адпачынку са Сьвятым Духам у Івацэвічах, у душпастырскім цэнтры мясцовых грэка-каталікоў, усё мне вельмі спадабалася, я адчула, як моцна нешта мяняецца ўнутры мяне. Быццам хтосьці ўзяў мяне за плечы і добра страсянуў: «Прачніся! Што ты сьпіш? 20 гадоў сам Ісус стукае да цябе, каб увайсьці ў тваё жыцьцё, каб напоўніць яго Сабой. А ты ўсё яшчэ адмаўляешся расплюшчыць вочы і прыняць Яго».*

*Ніколі не адчувала Госпада так блізка, ніколі ня верыла, што Ён тут, перад маімі вачыма і да Яго можна дакрануцца, як да рэальнай Асобы. Вось Ён сапраўдны, жывы, па-айцоўску цёпла абдымае мяне і зьдзіўляецца майму няверʼю.*

*На працягу гэтага 5-дзённага адпачынку ніхто ня мог быць сам у сабе, усе былі разам, разам праз Добрага Бога. І нават калі б ты ў нейкі момант вырашыў адыйсьці, зьбегчы ці схавацца, моцная сіла, Дух еднасьці, які быў у нашай супольнасьці, зноў вярнуў бы цябе на тваё месца, таму што праз кожнага, згодна са Сваім планам, дзейнічаў сам Бог.*

*Асабіста для мяне Бог падрыхтаваў гэтае малітоўнае спатканьне для таго, каб я захацела і змагла прыняць ва ўсёй поўні Яго, Які ходзіць ценем па маіх сьлядах і ціха шэпча: «Спыніся. Вось Я, побач. Я чакаю твайго адказу, чакаю цябе».*

*На твары кожнага, каго паклікаў Госпад на спатканьне ў душпастырскі цэнтр у Івацэвічах, я бачыла волю Бога. Тыя людзі, якія ледзь мяне ведалі, і тыя, з якімі я нават была зусім незнаёмая, сталі для мяне братамі і сёстрамі. І адчуваньне было такое, што ўсе яны добра ведаюць мяне і ведаюць мае патрэбы.*

*Уражаньняў ад гэтага адпачынку са Сьвятым Духам я атрымала гэтак шмат, што нават нельга перадаць словамі тое, што там было. На кожны дзень была свая праграма, але заўсёды — ці гэта была праца, супольная малітва, дзяленьні, сьпевы ці адпачынак — ва ўсім была бязьмежная радасьць і любоў, якую мы адчувалі адзін да аднаго. Часу сумаваць не было ні ў кога. Для мяне, чалавека, якога лёгка можна пакрыўдзіць і ўвесьці ў сум, не было для гэтага нават самай дробнай нагоды. Цікава, што ўсе мы такія розныя, але знайшлі агульную мову. Праз Бога людзі становяцца бліжэй адзін да аднаго. Ён — гэта Той, без каго ня можа быць нічога. Я гэта зразумела. Шкадавала адно аб тым, што не гатова была тады прыняць хрост у Сьвятым Духу. Але ў хуткім часе Госпад выканаў маё жаданьне, і я адчуваю Яго нават у сваім фізічным целе.*

*Шмат шчасьлівых твараў, мора новых ўражаньняў і ўспамінаў, еднасьць у Хрысьце і ўпэўненасьць у Божай Любові — гэта тое, што мы атрымалі падчас адпачынку ў Сьвятым Духу. А галоўнае — мы атрымалі Сьвятога Духа. Дзякую за гэта Богу!*

**Марына Казыра**
*г.Берасьце*

# 26 пунктаў для Савету Рэспублікі

⇨ Заканчэньне са с.9

8. Павелічэньне колькаснага цэнзу асобаў-заснавальнікаў пры рэгістрацыі рэлігійных суполак, якое прадугледжвае Закон, ня ўлічвае дэмаграфічнае сітуацыі, якая склалася ў пасобных нацыянальных супольнасьцях, што ў значнай ступені абмяжуе іхнія магчымасьці ў адпраўленьні рэлігійных абрадаў і традыцыяў (грэка-каталікі, рыма-каталікі, юдэі).

9. Грэка-каталікі прапануюць, каб Закон не абмяжоўваў права суполак мець свае СМІ, у адпаведнасьці з Законам «Аб СМІ».

10. Часавы цэнз на стварэньне рэлігійных абʼяднаньняў супярэчыць асноўным прынцыпам свабоды веравызнаньня і стварае перашкоды для разьвіцьця новых рэлігійных накірункаў у дэмакратычным грамадстве (юдэі, грэка-каталікі).

11. У Законе адсутнічае прававы механізм стварэньня і дзейнасьці манастыроў і сама магчымасьць паўстаньня манаскіх законаў і супольнасьцяў (рыма-каталікі, юдэі, грэка-каталікі).

12. Унесьці зьмены ў арт. 17 законапраекту прапануе Л.Левінсон: у частцы, дзе гаворыцца, што заява мусіць быць падпісаная «ўсімі ўдзельнікамі (членамі) гэтай суполкі», замяніць на «заснавальнікамі суполкі».

13. Устанаўленьне Законам прынцыпу тэрытарыяльнасьці ў дзейнасьці суполак сурʼёзна абмяжоўвае правы вернікаў на свабоду веравызнаньня і правы суполак як юрыдычных асобаў, што супярэчыць Грамадзянскаму кодэксу Рэспублікі Беларусь (рыма-каталікі, юдэі, грэка-каталікі).

14. Грэка-каталікі прапануюць у арт. 3 Закону ўвесьці панятак «рэлігійная замежная місія» (місіянерства) і акрэсьліць парадак яе дзеяньня і працы на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

15. Закладзеная ў Законе неабходнасьць рэгістрацыі пражываньня і дзейнасьці на тэрыторыі Беларусі замежных сьвятаслужнікаў супярэчыць асноўным прынцыпам свабоды перамяшчэньня, выбару месца жыхарства і дзейнасьці грамадзянаў (рыма-каталікі, юдэі, грэка-каталікі).

16. У законе адсутнічае прапісаны механізм рэгуляваньня фінансавай дзейнасьці і правоў уласнасьці рэлігійных суполак і абʼяднаньняў (рыма-каталікі, юдэі, грэка-каталікі).

17. У ч.2 арт. 37 законапраекту словы «прыняць рашэньне аб прыпыненьні» замяніць словамі «зьвярнуцца ў суд з заявай аб прыпыненьні» прапануе Л.Левінсон.

18. Выкладзены ў Законе прынцып рэстытуцыі культавай маёмасьці не адпавядае сусьветным стандартам і элементарным патрабаваньням справядлівасьці (юдэі, рыма-каталікі, грэка-каталікі).

19. Закладзеная ў Законе магчымасьць прыняцьця дасудовага рашэньня аб прыпыненьні дзейнасьці рэлігійнай суполкі як юрыдычнай асобы супярэчыць існуючым юрыдычным нормам (юдэі, рыма-каталікі, грэка-каталікі).

20. Увядзеньне ў Закон адказнасьці, прадугледжанай заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, за парушэньне недатыкальнасьці тайны споведзі супярэчыць прынцыпу неўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы Царквы (грэка-каталікі, рыма-каталікі, юдэі, Л.Левінсон).

21. Грэка-каталікі прапануюць у арт. 3 унесьці панятак «рэлігійная група» — арганізацыя, утвораная грамадзянамі Рэспублікі Беларусь у мэтах сумеснага вызнаньня веры, задавальненьня іншых духоўных патрэбаў вернікаў, і якая ня мае неабходнай колькасьці сяброў для атрыманьня праваздольнасьці юрыдычнай асобы. Памяшканьні і неабходная для дзейнасьці рэлігійнай групы маёмасьць даецца ў карыстаньне групы яе ўдзельнікамі. Грамадзяне, якія ўтварылі рэлігійную групу, пісьмова паведамляюць пра гэта ў гарадзкі, раённы выканаўчы камітэт з указаньнем канфесійнай прыналежнасьці рэлігійнай групы. Рэлігійная група, якая практыкуе раней невядомае ў краіне веравучэньне, атрымлівае дазвол на сваю дзейнасьць пасьля рэлігіязнаўчай экспертызы. Г. зн. канцэпцыя абавязковай рэгістрацыі рэлігійнай суполкі павінна быць заменена на прынцып добраахвотнай рэгістрацыі альбо ўведамленьня органа ўлады.

22. Л.Левінсон прапануе выключыць часткі 2-4 арт. 26 у мэтах прывядзеньня законапраекту ў адпаведнасьць з арт. 33 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

23. Грэка-каталікі прапануюць у арт. 3 Закону ўнесьці зьмену ў панятак «сьвятаслужнік» у частцы «ўпаўнаважаная адпаведнай рэлігійнай суполкай асоба».

24. Л.Левінсон прапануе ўнесьці ў законапраект палажэньне пра нераспаўсюджваньне дзеяньня ч. 2 арт. 15 на рэлігійныя абʼяднаньні, зарэгістраваныя да ўступленьня ў сілу дадзенага Закону.

25. Л.Левінсон прапануе у арт. 39 Закону тэрмін «непаўнагадовыя» замяніць на «малалетнія».

26. Грэка-каталікі, юдэі і рыма-каталікі прапаноўваюць дапоўніць законапраект палажэньнем аб праве на альтэрнатыўную вайсковую службу.

# «Вядзі мяне, Божа, праз цемру і вецер...»




• «Сьвята для Бога», якое ладзіла Супольнасьць «Chemin Neuf» для жыхароў Шартру.

Гэтыя словы з песьні вельмі блізкія мне, бо нагадваюць мой шлях, маё жыцьцё з Богам.. «Вядзі... туды, дзе ўбачу...» Убачыць, адчуць, атрымаць ласку... Гэта магчыма! Магчыма радавацца і быць шчасьлівым на гэтай зямлі. Гэта магчыма, калі знайсьці Бога, адчуць Яго і трымацца Яго; сказаць сьмела і ўпэўнена: «Мой Бог, мой Госпад!» Ён ёсьць, Ён жыве, Ён любіць! Ён нешта вельмі ласкава зьмяняе ўва мне, дае мне нешта новае. І ты адчуваеш, якое маленькае гэтае маё «я» ў параўнаньні з Ім. Але Ён ужо жыве ўва мне, і я ўжо не адна. З Ім можна зрабіць усё, нават тое, што яшчэ ўчора здавался зусім нерэальным. Ён вядзе нас, крок за крокам. І толькі праз нейкі час ты заўважаеш перамены, зьдзіўляешся і кажаш: «Ты — Вялікі, о Госпадзе! Ты можаш усё!»

...Мы ехалі ў Францыю на летнюю сесію Супольнасьці «Chemin Neuf», каб удзельнічаць у праграмах школы евангелізацыі. Ехалі, каб у братэрстве жыць і маліцца разам з маладымі людзьмі больш чым 15 краінаў сьвету і сьпяваць для людзей, сьпяваць пра Бога, з Богам і для Яго. Наогул, калі зьбіралася ў Францыю, я думала ўдзельнічаць у праграме школы евангелізацыі праз мастацтва, бо маю мастацкую адукацыю. Але Бог распарадзіўся так, што мне выпала далучыцца да ўдзельнікаў праграмы евангелізацыі праз Міжнародны экуменічны хор. У рэпертуары гэтага экуменічнага хору самыя розныя творы — ад джазу, негрыцянскіх сьпеваў да сьпеваў з візантыйскай літургіі. І ў Шартры моладзь розных краінаў на практыцы рэалізоўвала словы з Біблії: «Пляскайце ў далоні, усе народы;... Сьпявайце Богу нашаму, сьпявайце; сьпявайце Ўладару нашаму, сьпявайце» (Пс 46, 2, 7). Славіць Ягонае Імя ў такой цудоўнай супольнасьці маладых хрысьціянаў — гэта так добра!

Усё было б вельмі добра, толькі сьпяваць я ня ўмела... Калі я далучылася да Царквы, я вельмі моцна адчула гэты свой недахоп. Памятаю, адразу ў мяне зьявілася вельмі моцнае жаданьне славіць Бога ў песьнях. Але, калі толькі я адкрывала рот, тыя браты і сёстры, якія былі побач, літаральна закрывалі вушы. Цяпер гэта сьмешна, а тады я вельмі пакутвала. Я пачала прасіць у Бога, каб Ён даў мне магчымасьць славіць Яго праз сьпевы разам з усімі. І Ён даў мне тое, аб чым прасіла! Я засьпявала!

Каб нешта атрымаць ад Бога, трэба зрабіць найперш крок насустрач да Яго. Трэба прасіць не проста на словах, а па-сапраўднаму шчыра, з вялікім жаданьнем ахвяраваць сябе Богу цалкам, разам з усімі сваімі праблемамі і грахамі. Трэба прайсьці шлях выпрабаваньняў, быць верным, не губляць ніколі надзеі. Выпраменьваць любоў і ўмець ёю дзяліцца, бо «дарам атрымалі, дарам і аддавайце».

Там, у Францыі, я ведала, калі не атрымаю «хрост» у Сьвятым Духу, аднаўленьне, напаўненьне Сьвятым Духам, я не змагу сьпяваць у хоры. Гэты крок для мяне асабіста быў няпросты. Я вагалася да апошняй хвіліны — а раптам... Што раптам — ня ведаю, але баялася. Увечары перад тым як прыняць «хрост» у Сьвятым Духу, я шмат размаўляла з тымі, хто зрабіў для сябе ўжо гэты крок, малілася. Для сябе вырашыла, што калі прачнуся ўранку, першае, што адчую, тое і зраблю. Хоць у глыбіні душы ўжо тады я ведала, што прыму «хрост» у Сьвятым Духу. Я зрабіла гэты крок да Бога. І я засьпявала! Засьпявала разам з моладдзю многіх краінаў сьвету ў вялікім экуменічным хоры ў Шартры. У славутай катэдры XII стагоддзя Маці Божай!

...Вядзі мяне, Божа... туды, дзе ўбачу... Сьвятло. Калі Госпад ласкава дакранаецца да цябе, ты бачыш Сьвятло, ты адчуваеш Сьвятло, ты ўвесь імкнешся да гэтага Сьвятла і прымаеш яго. І тады яно жыве ў табе, а ты — у Ім.

**Алена Грынкевіч**
*г.Берасьце*



• Катэдра ў Шартры (Францыя).

# Лабірынт

Тры тыдні у ліпені гэтага году мне давялося правесьці ў Францыі ў Шартры, дзе я разам з групай беларускіх грэка-католікаў з Берасьця, Івацэвічаў, Магілёва брала ўдзел у летніх праграмах для моладзі Супольнасьці «Chemin Neuf». Праграма апошняга тыдня нашай сесіі называлася «Пры адкрытай Біблії». У гэты час каля 200 маладых людзей з розных краінаў сьвету адкрывалі схаванае багацьце Слова Божага праз вітражы і іншыя цудоўныя архітэктурныя задумкі катэдры ў Шартры.

Пра адно духоўнае практыкаваньне, якое я перажыла ў катэдры, мне хочацца расказаць.

Ёсьць у Шартрскай катэдры адно месца, якое называецца лабірынт. Па дыяметры ён роўны ружы, што знаходзіцца над галоўным уваходам — так званым каралеўскім парталам. У цэнтры ружы — Ісус. І калі ружу спраектаваць на падлогу катэдры, яна дакладна супадзе з выкладзеным на ёй лабірынтам, а цэнтр ружы, у якім зьмешчаны Хрыстос, супадзе з цэнтрам лабірынту. Трэба адзначыць, што агульная даўжыня лабірынту больш за 200 метраў.

Звычайна лабірынт адкрыты толькі па пятніцах, у астатні ж час ён застаўлены крэсламі. Калі мы апошні раз у пятніцу былі ў катэдры, мне вельмі захацелася прайсьці гэты лабірынт. Прайсьці ня проста так, а разважаючы над маім шляхам да Бога.

Лабірынт вельмі нагадвае шлях, якім чалавек ідзе да Бога. Калі крочыш па гэтым шляху, ты то набліжаешся да цэнтру лабірынту, ідзеш блізка-блізка яго, то раптам аддаляешся і ўжо зноў знаходзішся далёка ад мэты. Гэта нагадала і мне мой шлях да Бога. Вось, здаецца, ты вельмі блізка каля Бога, амаль адчуваеш Яго фізічна, а вось раптам нешта здарыцца — і ты ўжо аддаляешся ад Яго... Хочацца быць бліжэй да Яго, але нешта перашкаджае. І тады разумееш, што гэта толькі тваё чарговае выпрабаваньне, якое трэба годна вытрымаць, і тады абавязкова зноў сустрэнешся з Госпадам. Гэтак я крочыла сьцежкаю лабірынту шартрскай катэдры, узгадвала сваё жыцьцё, разважала над ім ды малілася. У момант, калі я ўжо набліжалася да цэнтру лабірынту, мяне ахапіла нейкае хваляваньне, хацелася хутчэй дайсьці да мэты, зьявілася нават спакуса проста прабегчы гэты кавалак, але я ўстрымалася й зрабіла гэтыя апошнія крокі павольна і ў малітве. Калі нарэшце я апынулася ўжо ў цэнтры лабірынту, мяне напоўніла вялікая радасьць. Я памалілася словамі Гасподняй малітвы «Ойча наш» і пакрочыла наперад — да галоўнага алтара катэдры. Задумка архітэктара, які спланаваў гэты лабірынт, у тым, што іншага шляху, каб выйсьці з лабірынту, проста няма.

Схілімся ж ў пашане перад Ісусам, які пайшоў на крыжовую муку, прыняўшы на сябе нашыя грахі. Хвала Госпаду!

**Марына Тарашкевіч**
*г.Берасьце*

# Шартр. Беларусы ў Міжнародным хоры Супольнасьці «Chemin Neuf»



Тэатр ценяў. Сьпектакль «Язэп».

Адзін з вітражоў катэдры ў Шартры.

Група праслаўленьня.

[illegible]арускі «дом» у Шартр[illegible]

Катэдра Маці Божай у Шартры.

Канцэрт Міжнароднага экуменічнага хору ў шартр[illegible] катэдры.

На сувязі з моладзю ў Таронта.

Вечар знаёмстваў.

Адарацыя Сьв. Дароў у катэдры.

[illegible]сяліцеся, радуйцеся ў Госпадзе!»

Грэка-каталіц[illegible]

Сустракайце[illegible] Беларусь[illegible]

«Сьвята для Бога» на вуліцах Шартру.

**Царква**
*грэка-каталіцкая газета*
*№ 3 (34), 2002*

**Адрас рэдакцыі:**
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасьце
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82
**e-mail: bgkc_carkva@tut.by**

**Заснавальнік і выдавец:** Берасьцейская грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27.11.1997 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар Кандрацьеў
**Царкоўны асістэнт:** а. Роберт Крывіцкі, SOEL
**Рэдактар:** Ігар Бараноўскі
**Падпісана ў друк:** 15 верасьня 2002 году, а 22-30
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 836), вул.Мініна, 23-106, 220014 г.Менск. **Замова №**
**Аб'ём** — 2,5 ул.-выд.аркушы. **Наклад** 2000 асобнікаў.

***Наш разьліковы рахунак***
***№ 3015200210017***
***у Берасьцейскім філіяле № 2***
***ЗАТ "Абсалютбанк",***
***МФО 150501242***

*Газета выдаецца на ахвяраваньні. Шчыра дзякуем сп. Генадзю Бядзе з м. Парычы Гомельскай вобл. за ахвяраваньне на газету "Царква". Молімся за ўсіх нашых ахвярадаўцаў!*

# РАЗАМ

газета грэка-каталіцкіх семінарыстаў № 3(7)-2002


> “Ходзячы, прапаведуйце, што наблізілася Царства Нябеснае...
>
> Не бярэце з сабою ні золата, ні срэбра, ні медзі ў паясы свае, ні торбы ў дарогу, ні дзьве вопраткі, ні абутку, ні кія”.
>
> *(Мц 10, 7, 9-10)*

# Пілігрымка і Царква

***Сёлета адбылася ўжо восьмая пілігрымка ў гонар Полацкіх мучанікаў***

Шмат хто лічыць, што пілігрымка з Віцебску ў Полацак — гэта адлюстраваньне нашай Царквы. Пазнаеш пілігрымку і шмат што даведаешся пра Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву. Можна спрачацца з гэтым сьцьверджаньнем, але пэўная доля слушнасьці ў ім ёсьць.

Пілігрымка стварае нашу Царкву. Гэта — месца евангелізацыі, прычым хутчэй унутранай, чым зьнешняй. Сустрэчы з мясцовымі жыхарамі пакуль не прынесьлі заўважнага плёну навяртаньняў. Аднак шмат хто з тых, для каго пілігрымка была першай сустрэчаю з Царквой, перажыў напраўду гэтых пяці дзён яшчэ й сваё першае спатканьне з Госпадам. Таксама пілігрымка — гэта школа пакліканьняў. Напрыклад, з дваццаці ўдзельнікаў першай пілігрымкі 1995 году трое цяпер вучацца ў семінарыях. Адзін з іх, брат Лявонці Тумоўскі, прыняў ужо сёлета на сьвята Ўсьпеньня Багародзіцы (па юльянскім календары) дыяканскія сьвячаньні.

Тыя, хто хадзіў у пілігрымку ў Будслаў, зьвярнулі ўвагу, што нашая пілігрымка мае менш розных набажэнстваў ці катэхез падчас дарогі. Гэта таксама адлюстраваньне нашай рэчаіснасьці. Царква для нас — ня толькі прысутнасьць на набажэнствах, але пазнаньне Бога ў супольнасьці братоў і сясьцёр. Мы ня маем храмаў і сьвятароў, таму сустрэча з людзьмі, жывая размова маюць для нас большае значэньне і ў навяртаньні, і ў далейшым жыцьці ў Царкве.

Пілігрымка вельмі маладзёвая, але ня толькі. Ёсьць у ёй месца і для вясёлых сьпеваў пад гітару, і для больш традыцыйных формаў малітвы. Прычым апошнія не зьяўляюцца выключна «уласнасьцю» асобаў старэйшага ўзросту. Вяровіца для Ісусавай малітвы (якая ня толькі носіцца, але й выкарыстоўваецца) — гэта элемент пэўнай моды сярод маладых пілігрымаў. Уражвае, што «гітарныя вечары» заканчваюцца чытаньнем малітоўнага правіла. Сустракаецца на пілігрымцы малітва ўсходняй і заходняй традыцыі — Акафіст, Ісусава малітва, Ружанец.

Па колькасьці ўдзельнікаў самай шматлікай была пілігрымка ў юбілейным 2000 годзе. Два апошнія гады лічба пілігрымаў застаецца стабільнаю, хоць і меншаю ў параўнаньні з Юбілеем. Ёсьць людзі, якія ўдзельнічаюць у пілігрымцы амаль штогод, іншыя сёлета былі ўпершыню. На жаль, у пілігрымку з Віцебску ў Полацак ідуць пераважна вернікі з парафіяў усходняй Беларусі і Менску, а захад — асабліва Берасьцейшчына — прадстаўлены слаба. Традыцыйным стаў удзел і дапамога ўкраінскіх семінарыстаў з Рудна, якія сьведчаць пра еднасьць паміж нашымі Цэрквамі.

Мы пазнаем адзін аднаго падчас пілігрымкі. Пілігрымка яднае нас. Яднае ня толькі тых, якія ідуць гэтыя сто кіламетраў, але і ўсіх, хто моліцца за пілігрымаў, і ўсіх тых, за каго яны ахвяруюць свае пакуты. Апекунамі, а значыць, і ўдзельнікамі пілігрымкі, зьяўляюцца пяцёра пакутнікаў Полацкіх. Гэтую пілігрымку наша Царква — нябесная й зямная — стварае РАЗАМ.

**РЭДАКЦЫЯ**



# Хроніка пілігрымкі

***З 10 па 14 ліпеня 2002 году адбылася восьмая пілігрымка з Віцебску ў Полацак дзеля ўшанаваньня Полацкіх мучанікаў. Напярэдадні пілігрымкі, 9 ліпеня, на Ўсьпенскай горцы ў Віцебску быў адслужаны ўрачысты малебен.***

Першы дзень пілігрымкі распачаўся сьв. Літургіяй у катэдральным касьцёле сьв. Барбары. Адразу пасьля службы, пасьнедаўшы, пілігрымы рушылі ў дарогу.

У першы дзень трэба было прайсьці даволі шмат: трыццаць чатыры кіламетры, але, дзякуючы шчырым супольным малітвам ды сьпевам, ісьці было няцяжка. Падчас пераходу рабіліся прыпынкі дзеля таго, каб трошкі адпачыць альбо ўшанаваць сьвятое месца ці магілкі. А на самым вялікім прыпынку — у абед — вернікі былі падзелены на групы, у якіх яны праз усю пілігрымку разважалі над Евангельлем чарговага дня і «шчасьлівымі» — словамі з Казаньня на гары (Мц 5, 3-12). Нарэшце, прыйшоўшы да першай вёскі — Слабады — пілігрымы павячэралі, памыліся ў возеры і паклаліся спаць, каб з раніцы, пасьля ранішняй малітвы і Літургіі ісьці далей. Такім прыкладна быў расклад кожнага дня.

Хочацца толькі адзначыць яшчэ два асноўныя прыпынкі на нашым шляху: у горадзе Шуміліна, дзе мы сьпявалі акафіст Маці Божай у маленькай капліцы разам з братамі рыма-каталікамі, ды ў вёсцы Струньня, дзе быў наш апошні адпачынак. У гэтай мясцовасьці да скасаваньня Уніі ў 1839 г. была рэзідэнцыя мітрапалітаў. Тут, ля памятнага крыжа, адбылася малая паніхіда.

(Працяг на старонцы 2)

## Хроніка пілігрымкі

*(Працяг са старонкі 1)*

І вось 13 ліпеня, субота, Полацак, малебен за беларускі народ ля сьцен Сафійскага сабору, затым — разьмяшчэньне на начлег у студыцкім манастыры сьв. Барыса й Глеба, вячэра ды Вячэрня ля царквы сьв. Параскевы Полацкай. Наступны дзень — заканчэньне пілігрымкі — супаў са сьвятам Айцоў першых 6-ці Ўсяленскіх сабораў. Была адпраўлена ўрачыстая Літургія з ушанаваньнем Полацкіх мучанікаў-базыльянаў і іншых сьвятых. Пасьля абеду быў ад'езд дамоў. Але ўсе былі задаволеныя праведзенымі днямі.

Перад тым, як пісаць гэты артыкул, я запытаўся ў некаторых удзельнікаў пілігрымкі, на што яны зьвярнулі ўвагу, што спадабалася або не. Адказы былі практычна аднолькавыя. Усім спадабалася тое, што людзі, якія раней ня ведалі адзін аднаго, шчыра маліліся разам, сьпявалі песьні, размаўлялі на розныя тэмы, што магчыма толькі ў пілігрымцы. Усе пілігрымы вельмі ўдзячныя нашым айцам: Зьміцеру, Клімепцію і Пятру, якія маліліся разам з намі. І, вядома, спадару Міколу Шараху, які быў нам сапраўдным апекуном, які клапаціўся пра нас у час дарогі.

Цяпер усе мы з нецярпеньнем чакаем наступнага лета, каб зноў крочыць у шлях і сьведчыць Ісуса Хрыста!

**Алесь Сьцяпанаў**

# Мая першая пілігрымка

Першы дзень пілігрымкі з Віцебску ў Полацак быў для мяне вельмі цяжкі. Я амаль ніколі ня ведала. Было сьпякотна, непрывычнаю мне была й працяглая хадзьба пешкі. Дзеля гэтага першы дзень здаўся мне зусім жахлівы. Таму, як толькі здарылася нагода, я пад'ехала на машыне. Атрымалася, што ў першы дзень я прайшла толькі палову шляху. Нас прывезьлі ў дзіцячы садок, дзе ўсе тыя, хто, як я, ехаў на машыне, пайшлі на кухню рыхтаваць вячэру для пілігрымаў. Тыя ж, хто прайшоў увесь шлях, прыйшлі толькі ўвечары вельмі стомленыя. Мы паелі й ляглі спаць. Раніцою страшна не хацелася ўставаць. Але варта было зрабіць высілак — і санлівасьць як рукой зьняло.

На другі дзень я ўжо пераснаёмілася з людзьмі і таму йшлося лягчэй. Напрыканцы дня адзінае, што я хацела,— гэта спаць. На трэці дзень большую частку шляху я йшла лёгка і толькі пад канец зразумела, што вельмі стамілася і да таго ж нацерла мазалі. Увечары мы пайшлі на рэчку мыцца. Вада была — цуд! А да гэтага я думала: як можна мыцца ў рэчцы? Але цяпер зразумела, што і ў гэтым ёсьць свая асалода. Апошнія дні пілігрымкі ўвогуле былі лёгкія. Прыехаўшы дадому, я добра паела і лягла спаць у свой любімы ложак.

**Аня ГЕРМАНОВІЧ**

# Я адчула ясную блізкасьць Бога...

***Дзе, як ня ў дарозе, можна пазнаць чалавека, дзе як ні ў цяжкасьцях пазнаецца сябра. Пілігрымка ж дае яшчэ большае: яна дае магчымасьць адарвацца ад паўсядзённасьці ды адчуць сябе праўдзівай часткаю Хрыста. Сёлетняя пілігрымка з Віцебску ў Полацак прынесла для парафіі з Горадні багаты духовы гарт. У акцыі прынялі ўдзел тыя, што яшчэ ніколі не хадзілі. Сваімі ўражаньнямі дзеляцца спн. Ірына ГАМБАРАВА ды спн. Вера КУНЦЭВІЧ.***

***Карэспандэнт: Скажэце, якое вы мелі адчуваньне ў пілігрымцы?***

**Спн. Ірына:** Адчуваньне выкананага абавязку, бо я паставіла мэту перад сабою й дасягнула яе з задавальненьнем.

**Спн. Вера:** Да пілігрымкі я рыхтавалася, хацела пайсьці па сьвятых мясьцінах, па якіх калісь хадзіў сьвяты Язафат, а я ж маю адно з ім прозьвішча.

***Карэспандэнт: Што дала пілігрымка асабіста вам, і што, калі можна гэтак сказаць, забрала?***

**Спн. Ірына:** У пілігрымцы я атрымала й адчула ясную блізкасьць Бога. Была вельмі ўзрушана тым, што са мною йшло столькі людзей, людзей, якія думаюць як і я, моляцца да Бога як я. Усе людзі былі як адзіны арганізм, кожны імкнуўся дапамагчы, не зважаючы на свае цяжкасьці. Гэтая часовая лучнасьць прамяніла мяне, давала сілы пераадольваць уласныя пакуты, гэта быў узор чыстай Хрыстовай Царквы. Пасьля гэтых некалькіх дзён я ўбачыла гарызонты для дасканаленьня сябе, ачысьцілася, разам з маімі фізічнымі пакутамі, настолькі, што, вярнуўшыся дадому, з большай чульлівасьцю неражываю чужы боль, несправядлівасьць. Можа гэта дзіўна, але пасьля пілігрымкі я стала аголеным нервам, больш адчувальнай да цяжару жыцьця. І, калі казаць, што згубіла за гэтыя цудоўныя дні, то, напэўна, частку сваіх заганаў.

**Спн. Вера:** Пачну з канца. Згубіла страх, што ня здолею прайсьці адлегласьць пад лічбай 100 (кіламетраў). Набыла шмат чаго. Нешта ўва мне адбылося такое, што цяжка перадаць на мове чалавечай. Ці то пад уплывам людзей, багаслужбаў, нават у фізічнай сферы, ком праблемаў развязаўся, стала радасна, свабодна. З маім сынам, Аляксеем, стала лягчэй знайсьці агульную мову. Я зразумела, што я недастаткова часу прысьвячала яму.

І яшчэ — я прайшла першую споведзь.

***Карэспандэнт: Ці пойдзеце яшчэ ў пілігрымку?***

**Спн. Ірына:** Як з радасьцю прыняла рашэньне ісьці сёлета, калі атрымалася ўладкаваць на гэты час маю маленькую дачку, гэтак, калі будзе магчымасьць, пайду з задавальненьнем на наступны год.

**Спн. Вера**: Але, абавязкова пайду.

*Гутарку вёў* ***Вітаўт ПАРФЯНЕНКА***



• Удзельнікі пілігрымкі 2002 году з Віцебску ў Полацак.

# «І будзе там вялікая дарога, і шлях па ёй назавецца шляхам сьвятым»

Немагчыма адназначна адказаць на пытаньне, чаму я выбраўся ў пілігрымку з Віцебску ў Полацак. Наадварот, адказаў, як і самых нагодаў, можа быць шмат: прагненьне сустрэцца з сябрамі, нейкі асаблівы намер, час малітвы і пакуты, а нават, можа, і вясёлая прыгода. Несумненна, усё гэта мае месца падчас супольнага паломніцтва. Тым больш і надвор'е дапасавалася: цёплыя дні, цудоўныя краявіды, купаньне ў рэках. Аднак адказ на пастаўленае пытаньне належыць шукаць таксама і ў чымсьці іншым, а менавіта ў адчуваньні ўвасабленьня гісторыі збаўленьня. Я пайшоў, бо ўдзельнічаю ў пілігрымцы свайго жыцьця, у пілігрымцы да Валадарства Божага, у пілігрымцы да збаўленьня. Такім чынам, пілігрымкі, якія арганізоўвае Царква, зьяўляюцца дасканалай магчымасьцю, каб далучыцца да гэтага шляху супольнага крочаньня да нейкай мэты, месца, якое Царква асабліва шануе. Можна сказаць, што сьвядомасьць няспыннага быцьця ў дарозе была для мяне падставаю для жыць ад Яго і ў Ім знаходзіць спаўненьне. Ідучы да канкрэтнай мэты, да Полацку, усьведамляю сваю залежнасьць ад Крыніцы Жыцьця, якой ёсьць Бог. Гэта сьвядомасьць дазволіла заўважыць вельмі важную рэч: сталую прысутнасьць Бога сярод свайго народу. Ці ў часе літургіі, ці то напрацягу паходу, ці ў часе разважаньняў альбо адпачынку Ўваскрослы Хрыстос заўсёды быў прысутны сярод нас, сярод пілігрымаў — падтрымліваў і блаславіў, умацоўваў і дадаваў сілы.

Быць хрысьціянінам, жыць у Царкве — немагчыма без Слова Божага. Падчас пілігрымкі да Ерусаліму, дванаццацігадовы Ісус затрымаўся ў Храме, каб слухаць габрэйскіх настаўнікаў і дыскутаваць з імі. Без сумніву, прадметам слуханьня і дыскусіі было Слова Божае. Слуханьне Слова было канстытутыўным элементам нашай пілігрымкі. Казаньне падчас літургіі ці разважаньня над блаславенствамі грунтаваліся на Сьвятым Пісаньні, а падчас паходу можна было пачуць размовы і дыскусіі на тэму Біблії.



• Малітва пілігрымаў.

Для мяне як для тэолага пілігрымка таксама спалучаецца са сьведчаньнем і евангелізацыяй. Уваскрослы Хрыстос гаворыць: «Вы прымеце сілу, як зыйдзе на вас Дух Сьвяты, і будзеце Мне за сьведкаў у Ерусаліме і ва ўсёй Юдэі і Самарыі і нават па край зямлі» (Дз 1, 8). Знаходзячыся сярод нас, Дух Сьвяты няспынна пабуджае нас даваць сьведчаньне веры словам і жыцьцём. На пілігрымцы маю магчымасьць выразіць сваю веру, вернасьць і давер уласна праз сьведчаньне. Зрэшты, сам факт супольнага крочаньня зьяўляецца велізарным сьведчаньнем веры Царквы і яе вернасьці Хрысту. І паводле гэтага ўзору і я, як член Цела Хрыстовага магу складаць сьведчаньне прысутнасьці Хрыста сярод нас, а таксама й ласкаў, атрыманых ад Бога. Сьведчаньне ёсьць пэўнай формай евангелізацыі. Першы евангелізацыйны выступ Хрыста адбыўся ў Назарэце (Лк 4,18), а папярэджваў яго момант хросту, «калі Ісус маліўся, адчынілася неба і Дух Сьвяты сышоў на Яго» (Лк 3, 21-22), а таксама спакушэньня ў пустыні (Лк 4, 1-13). Гэта азначае, што кожнае сведчаньне, кожная евангелізацыя спалучаецца з малітвай і дзеяньнем Духа Сьвятога, а таксама папярэднім адчуваньнем Бога ў цішы.

пераадоленьня тысячы кіламетраў, дзеля прыбыцьця ў Віцебск, каб супольна рушыць у Полацак. Хрысьціянства няспынна знаходзіцца ў дарозе, так, як Хрыстос, які заўсёды да чагосьці кіраваўся: калі быў дзіцём — разам з бацькамі кіраваўся ў Ерусалім на сьвята Пасхі, кіраваўся да сьвятога гораду таксама і тады, калі хацеў праславіць імя Айца. Ерусалім быў асаблівым горадам, горадам, у які прыходзілі тысячы ізраільцянаў, горадам пакланеньня Адзінаму Богу.

Штодзённыя клопаты, праца, навука на працягу году пабуджаюць чалавека да разважаньняў над сабою, над сваім жыцьцём, сваім месцам у сьвеце. Пілігрымка дае магчымасьць даверыць Богу ўсе свае радасьці і смуткі, праблемы, планы, прагненьні. Малітва, штодзённая літургія, чытаньне Сьвятога Пісаньня, разважаньні, быцьцё разам, а таксама супольная мэта падчас пілігрымкі дадаюць духовых і фізічных сілаў, надзеі і даверу Богу і Хрысту. Вядома, не бракавала ў мяне й розных уласных намераў, з якімі я прыехаў і якія даверыў Збаўцы.

Пайшоў у пілігрымку, бо хацеў выразіць сваю вернасьць Уваскросламу. Гэта не азначае, што на працягу году чалавек няверны і не знаходзіць хвіліны для Бога, але гэта пэўны высілак вернасьці, прагненьне поўнага адданьня сябе Хрысту — вырвацца з кантэксту, у якім жывеш, і накіравацца да сьвятога месца, каб атрымаць шчодрае Божае блаславеньне. Выраз вернасьці і даверу іграе ў гэтым для мяне вялізную ролю. Удзелам у пілігрымцы хачу выразіць тое, што Хрыстос ёсьць адзіным Госпадам майго жыцьця. Усё маё жыцьцё залежыць ад Яго і ў Ім знаходзіць спаўненьне.

Вяртаючыся да пытаньня, якое я паставіў сабе напачатку — чаму выбраўся ў пілігрымку — не магу выразіць усе перажываньні і дасьведчаньні падчас пілігрымкі з Віцебску да Полацку. Але, здаецца, пілігрымка — гэта тая дасканалая магчымасьць, дзе можна рэалізаваць усе названыя вышэй элементы. Акрамя таго, гэта яшчэ цудоўныя хвіліны, праведзеныя з сябрамі. Ідучы на пілігрымку, ступаю на шлях, які вядзе да сьвятасьці, больш таго, як прарочыць Ісая, станаўлюся на сьвятую дарогу. «І будзе там вялікая дарога, і шлях па ёй назавецца шляхам сьвятым; нячысты ня будзе хадзіць па ім; але ён будзе ім адным. Хто пойдзе гэтым шляхам, нават і нявопытныя, не заблудзяцца» (Іс 35, 8). Гэтым шляхам і ёсьць пілігрымка.

**Вячаслаў СТЭЦКО**, *магістр біблістыкі*

***Віншуем***

***удзельніка першай і аднаго з арганізатараў некалькіх апошніх пілігрымак з Віцебску ў Полацак брата-студыта Лявонція ТУМОЎСКАГА з прыняцьцем 28 жніўня 2002 году ДЫЯКАНСКІХ СЬВЯЧАНЬНЯЎ з рук Уладыкі Любаміра Гузара. Многія леты!***

# Зварот

## Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі
## *на пачатак Новага Царкоўнага Году*

**(1 верасьня 2002 году)**

*Вялебныя Айцы,*
*Любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры,*
*Дарагія Сябры!*

**1** У Імя Гасподняе мы ўвайшлі 1 верасьня ў Новы Царкоўны Год. Гледзячы на мінулы час вакацыяў, хочам падзякаваць Госпаду за магчымасьць правядзеньня шматлікіх акцыяў катэхізацыі ды духовага фармаваньня для дзяцей, моладзі ды вернікаў нашае Царквы. З удзячнасьцю ўзгадваем у малітвах усіх нашых дабрадзеяў, якія дапамаглі нам рэалізаваць вакацыйную праграму.

Пілігрымкі, рэкалекцыі, летнікі былі добрай нагодай, каб асэнсаваць нашае хрысьціянскае пакліканьне ў сьвятле каталіцкай эклезіялогіі — навукі пра Царкву, у якой супольная адказнасьць сьвятароў ды сьвецкіх вернікаў і сумесная паслухмянасьць Евангельлю ды ярархіі Царквы мае асноўнае значэньне.

**2** Як вы добра ведаеце, у мінулыя месяцы нашыя парафіі ды вернікі сустрэліся таксама з многімі зьнешнімі цяжкасьцямі. Гэта нас не зьдзіўляе, але толькі заахвочвае да большай руплівасьці ды царкоўнай дысцыпліны.

На жаль, апошнія месяцы паказалі таксама, што ня ўсе нашыя вернікі разумеюць значэньне царкоўнай дысцыпліны ды патрэбу супрацоўніцтва. Некаторыя спрабуюць сьвецкімі метадамі дасягнуць духоўных мэтаў, што натуральна вядзе ў тупік. Зразумела, што мы ня можам прамаўчаць пра такія небясьпечныя зьявы.

Гледзячы на Слаўны, Жыцьцядайны Крыж Госпада, які ўшаноўваем у гэтыя дні, хочам у тым жа Крыжы, які нясе перамогу над злом, шукаць духовую сілу ў складаных сітуацыях.

**3** У традыцыі Царквы Хрыстовай, якая перажыла не адзін цяжкі час, знаходзяцца каштоўныя лекі на ўсякую немач, зьнешнюю ды ўнутраную. Таму, на парозе Новага Царкоўнага Году, хачу заахвоціць усіх вернікаў ды сябраў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, каб у перыяд ад 14 верасьня (урачыстасьць Узвышэньня Жыцьцядайнага Крыжа) да 12 лістапада (урачыстасьць Сьвятамучаніка Язафата) уключыліся ў духоўную акцыю посту ды малітвы.

У гэты час будзем мець адвагу ня толькі ўстрымлівацца ад мяса, але таксама адвагу адмовіцца ад усіх алкагольных напояў. З цьвярозым, вольным ад гневу ды пакорлівым сэрцам будзем прасіць Госпада аб умацаваньні нашай веры, надзеі ды любові. Будзем шчыра маліцца за дар навяртаньня сэрцаў ды перамогу над злом, якое хоча нас разьяднаць ды аслабіць.

У посьце (асабліва ў серады ды пятніцы), у малітве ды чытаньні й разважаньні Слова Божага, будзем разам — сьвятары і вернікі нашае Царквы — шукаць усяго, што спрыяе супрацоўніцтву ў справе прапаведваньня Евангельля праз прыклад руплівага хрысьціянскага жыцьця, царкоўную дысцыпліну ды праз паслухмянасьць ярархіі Царквы.

**4** На шляху нашага подзьвігу посту ды малітвы выяўляюцца два моманты асаблівага значэньня. Гэта ўдзел вернікаў нашае Царквы ў штогадовай міжнароднай пілігрымцы грэка-католікаў у гонар Багародзіцы — у гэтым годзе ў Чарнаўцах на Букавіне 12-13 кастрычніка 2002 г. ды пілігрымка моладзі нашае Царквы ў Полацак на ўрачыстасьць Сьвятамучаніка Язафата (у нядзелю, 10 лістапада 2002 г.).

Ужо сёньня хачу ўсіх запрасіць да духоўнага ўдзелу ў гэтых пілігрымках, а тых, хто зможа, таксама да ўдзелу ў іх. Гэта будзе выяваю нашае руплівай малітвы.

У духу пакланеньня Жыцьцядайнаму Крыжу — крыніцы духоўнай сілы — усім Вам удзяляю пастырскае блаславеньне.

***Рым-Менск, 14 верасьня 2002 г.***

***Урачыстасьць Узвышэньня Жыцьцядайнага Крыжа Гасподняга***

+ архім. Сяргей Гаек

**+ Архім. Сяргей (Гаек)**
**Апостальскі Візітатар**
**для грэка-католікаў Беларусі**

***1 верасьня 2002 году ў Драгобычы ў катэдральным храме Сьвятой Тройцы Уладыка Юльян Вараноўскі ўдзяліў***

***СЬВЯТАРСКІЯ СЬВЯЧАНЬНІ Аляксандру САПУНКУ.***

***Шчыра віншуем і зычым Божае ласкі ды падтрымкі ў душпастырскай працы!***



**РАЗАМ № 3(7)-2002**
дадатак да газеты «Царква», № 3 (34)

**Над нумарам працавалі:**
Андрэй КРОТ (akrot@poczta.onet.pl);
Андрэй БУЙНІЧ (niepismienny@poczta.onet.pl)

**Пішыце нам:**
al.Andrej Krot (al.Andrej Bujnicz)
W.S.D., ul.Kościelna 10,
17-312, Drohiczyn, POLSKA